PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 27 (2199) Год XLIII Беласток 5 ліпеня 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Бельскі белліцэй — найлепшы

Аляксей Мароз

— Калі параўноўваць сярэднія школы ў Беластоцкім ваяводстве паводле поспехаў у алімпіядах, дык Бельскі белліцэй на першым месцы, — заявіла дырэктар гэтай жа школы Зінаіда Навіцкая. — 64 нашых вучняў прымалі ўдзел у акруговых і ваяводскіх элімінацыях, з ліку якіх 5 ліцэістаў сталі лаўрэатамі, а 13 — фіналістамі цэнтральнага этапу.

Найбольш удзельнікаў цэнтральнага этапу было ў алімпіядзе беларускай мовы, сярод якіх 3 стала лаўрэатамі — Івона Хмур, Юрка Грыгарук і Іаанна Якубовіч і 4 фіналістамі — Кацярына Анушка, Марк Катушэўскі, Іаанна Голец і Марк Рубашэўскі. У алімпіядзе рускай мовы 4 ліцэісты сталі фіналістамі — Міхал Шымчук, Юліта Баршчэўская, Уршуля Ажахоўская і Агнешка Гродзкая. Міхал Шымчук стаў таксама фіналістам алімпіяды геаграфічнай і науталагічнай (ведаў аб мараплаванні). Вучань III класа Тамаш Сахарчук стаў лаўрэатам алімпіяды ведаў аб Польшчы і сучасным свеце. Званне фіналіста біялагічнай алімпіяды атрымаў Тамаш Гушч. Універсітэт у Торуні ўжо 34 раз арганізаваў хімічны конкурс імя Свінарскага (на ўзроўні алімпіяды). На цэнтральным этапе гэтага ж конкурсу Ала Парфянюк стала лаўрэатам, а Дарыюш Шчыгел — фіналістам.

Тамаш Сахарчук дзякуючы таму, што стаў лаўрэатам, адначасна стаў студэнтам (вядома, калі закончыць сярэднюю школу). Многія універсітэты гатовы прыняць яго на розныя напрамкі без экзаменаў.

— Алімпіядай ведаў аб Польшчы і сучасным свеце пачаў я цікавіцца ад першага класа, а прычынай таму сталі можа і поспехі майго брата Яраслава, які раней таксама быў переможцам...



*Міхась Шымчук.*

[працяг ☞ 4]



Ад Алены Анішэўскай (1 кніга) да Сакрата Яновіча (21 кніга) пералічыў дасягненні „белавежцаў” у саракагоддзі прафесар Васіль Белаказовіч. Кнігі тыя лічацца ўжо не дзесяткамі, кнігі — *каментарыі да кнігі жыцця беларусаў* (Міхась Тычына)...

# „Белавежа”. Сталы ўзрост

Міра Лукша

А аўтараў, што друкаваліся пад шыльдай Беларускага літаратурнага аб'яднання пераваліла за трыста. „Фермапілы” — прапануе старшыня Літаб'яднання Ян Чыквін (на здымку) назоў новаму беларускаму літаратурнаму часопісу — штогодніку „Белавежы”, літаратурна-крытычна-навуковаму выданню, але ў некаторых асацыяцыя трохі з тымі Фермапіламі іншая. Тых трохсот, абаронцаў нашага слова, айчыны і ўласных душаў, не склалі ж галоў у бітве! Яны — пераможцы гісторыі не толькі ў памяці людской. Яны — жывуць, як **жыве** Беларусь!

Якія жывушчыя і моцныя яшчэ тыя ўсе, хто пачынаў гісторыю беларускага літаратурнага руху на Беласточчыне ў 1958 годзе (а, можа, і раней) — Георгій Валкавыцкі, Сакрат Яновіч, Віктар Швед, Ян Чыквін, Мікола Гайдук, Уладзімір Гайдук, хоць скроні іхныя асыпаў іней! Падрасло і пасталела пакаленне іхных „дзяцей” — равеснікаў „Белавежы” (Ян Максімюк, калі хлопцы раіліся яднацца, кугакаў наваародкам, а Міра Лукша нарадзілася роўна тыдзень пасля дэбюту Яна Чыквіна на ніўскай літстаронцы...). І хоць волас пасівеў, і спіна катораму парыпвае ад цяжару гадоў і нягод, не пакінулі яны сваіх пёраў, а крылы вынеслі іхную славу па розных мясцінах свету. Хто з іх тады, сорак гадоў таму, спадзяваўся!..

На міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай саракагоддзю „Белавежы”, гучалі словы высокія, годныя юбілеям і падсумаванням, але Мікола Гайдук, вяртаючыся да вытокаў і доўгае дарогі нашай тут творчасці, сціпла падкрэсліў:

— Не трэба ўжо так гаварыць пра нейкую надта ж натхнёную, вельмі ж высокую, а пра ціхую і шэрую працу, якую мы рабілі на працягу тых сарака гадоў. Рабілі не думаючы, што ствараем нейкую гістарычную справу. Гэта было буджэнне беларускасці ў сабе і іншых, умацоўванне яе. Гэта была наша галоўная ідэя, і гэтаму мы служылі. Пачулі мы тут даклады выдатных маладых і дасведчаных даследчыкаў з Беларусі і нашых, надзвычай набілітуючыя нас, па-мойму шэранькіх, надзелі на нас „арэолы” якіхсьці там незвычайнасцей. Вядома, з аднаго боку гэта прыемна, з другога — небяспечна. Нам далей трэба працягваць тую шэрую, звычайную работу, і тым больш узмоцнена, бо ў яшчэ цяжэйшых умовах, чым калісьці ў яе пачатках. Бо калісьці жыла вёска, было большае знаёмства з роднай мовай, былі школы (у той час

[працяг ☞ 9]

## Беларускія парламентарыі ў Сейме

У днях 15-18 чэрвеня ў Варшаве, па запрашэнні маршалка Сейма Мацея Плажынскага, пабывала дэлегацыя Вярхоўнага Савета XIII склікання на чале са старшынёй Сямёнам Шарэцкім. Візіт апазіцыйных беларускіх парламентарыяў у Польшчу выклікаў „здзіўленне” Пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве. Так, менавіта „здзіўленне”, бо такое слова можна знайсці ў дыпламатычнай ноце, накіраванай беларускім бокам у польскае Міністэрства замежных спраў.

[паведамленне ☞ 2]

## Я спакойна пішу пра Крынкі

Крынкі здаюцца мне мініяцюрай свету. Тут здараюцца ўсе тыя самыя праблемы, толькі ў меншым памеры, што і ў свеце. У Крынках маем сутыкненне, мешаніну рэлігій, моваў, менталітэтаў. Тое самае я бачыў у Венецыі, якая зразумела непараўнальна большая за Крынкі, але можна сказаць, што гэта такое самае мястэчка Еўропы, дзе сустракаецца шматкультурнасць, шматмоўнасць.

[інтэрв'ю з Сакратам Яновічам ☞ 4]

## Русалчын дом

Няма ў Газьбеты свае хаты, але колькі ж іх сённяшняя па вёсках, гэтых хатак, у якіх няма гаспадароў! Стаяць некаторыя, як стаялі, ніхто ім ні дзвярэй, ні вокан не забівае. Цяпер самотныя хаты бліскаюць чорнымі вачніцамі на апусцелую дарогу, дзверы без замкоў нікога не запросяць, хоць, бывала, шчыра яны напаўрасчыненыя, усміхаюцца пакручанымі парогамі.

[апавяданне ☞ 5]

## Плач Нябёсаў

У нядзелю, 21 чэрвеня, у беластоцкім амфітэатры Галоўнае праўленне БГКТ ладзіла свята беларускай культуры, якое прымеркавана было на завяршальны акорд знаёмства з Беласточчынай Камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей Сейма Рэчы Паспалітай. Мерапрыемства ўдастоілі міністр культуры, члены Камісіі, беларускія дыпламаты і прадстаўнікі менскіх міністэрстваў культуры і адукацыі. Ад беластоцкіх улад ваяводства і горада — нікога *ani be, ani me, ani kukuryku*; відаць слова „культура” ў назве мерапрыемства палічылі яны недастойным свайго перапоўненага „хрысціянскімі вартасцямі” дастаенства.

[фотарэпартаж ☞ 8]

# Беларусь — беларусы

## Беларускія парламентарыі ў Сейме

У днях 15-18 чэрвеня ў Варшаве пабывала дэлегацыя Вярхоўнага Савета XIII склікання на чале са старшынёй Сямёнам Шарэцкім. Беларускія парламентарыі наведалі Польшчу па запрашэнні маршалка Сейма Мацея Плажынскага.

Вярхоўны Савет XIII склікання не прызнаецца прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам. Распусціў ён гэты парламент напрыканцы 1996 году і стварыў новы — Нацыянальны Сход, у састаў якога назначыў толькі сваіх прыхільнікаў. Аказалася ў ім частка дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання. Многія дэпутаты не згадзіліся з такім рашэннем прэзідэнта (як і не адобрылі зменаў у Канстытуцыі РБ з 1994 г.) і надалей працягваюць працу. Праўда, іх сітуацыя на міжнароднай арэне вельмі складаная, але ВС прызнаецца легітымным як Арганізацыяй Бяспекі і Супрацоўніцтва ў Еўропе (АБСЕ), так і Радай Еўропы.

У Варшаве апазіцыйныя дэпутаты сустрэліся з маршалкам Сейма Мацеем Плажынскім і Сената — Аліцыяй Гжэськовяк, са старшынёй Камісіі замежных спраў Чэславам Бялецкім, а таксама з прадстаўнікамі Польска-беларускай міжпарламенцкай групы з дзяржаўным падсакратаром у Міністэрстве замежных спраў Пшэмыславам Грудзінскім. Апрача гэтага дэлегацыя беларускіх дэпутатаў наведала ўсе парламенцкія клубы, пачынаючы ад Выборчай акцыі „Салідарнасць" (AWS), а закончыўшы Саюзам левых дэмакратаў (SLD). У сваю чаргу старшыня ВС XIII склікання Сямён Шарэцкі быў прыняты прэзідэнтам Рэчы Паспалітай Аляксандрам Кваснеўскім. Размова тычылася ў асноўным сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь, а таксама польска-беларускіх адносін. На думку Сямёна Шарэцкага, гэты факт, што дэлегацыя беларускіх апазіцыйных парламентарыяў наведала польскі Сейм па запрашэнні афіцыйных улад абазначае, што Польшча прызнае ВС як адзіны легітымны орган заканадаўчай улады ў РБ.

Пасля сустрэчы з дэпутатамі маршалак Сейма М. Плажынскі запэўніў, што Польшча ў адзін голас будзе выступаць супраць парушэння чалавечых правоў у Беларусі. Дадаў аднак, што Польшча не хоча ўмешвацца ва ўнутраныя справы свайго суседа, але не можа маўчаць, калі парушаюцца там прынцыпы дэмакратыі.

„Мы ў першую чаргу праінфармавалі сваіх польскіх калег аб той сітуацыі, якая склалася сёння на Беларусі, — сказаў Сямён Шарэцкі. — Абмеркавалі таксама пытанні звязаныя з польска-беларускімі адносінамі, якія сёння з'яўляюцца не зусім нармалёвымі. Беларускія дэпутаты запэўнілі са свайго боку, што калі апазіцыя прыйдзе да ўлады ў РБ, то зробіць усё дзеля таго, каб Беларусь была незалежнай і дэмакратычнай краінай і каб у адносінах да сваёй суседкі Польшчы кіравалася міжнароднымі прынцыпамі".

Падчас сустрэчы было ўзгоднена, што недзе ў палове лістапада гэтага года адбудзецца першая супольная сустрэча Польска-беларускай міжпарламенцкай групы. Праўдападобна гэтая сустрэча адбудзецца ў Менску. Дапамогу ў яе правядзенні абяцаў старшыня Камісіі замежных спраў Чэслаў Бялецкі.

Апрача гэтага, як паведаміў намеснік старшыні ВС XIII склікання Генадзь Карпенка, удалося наладзіць кантакты паміж польскімі парламенцкімі клубамі і фракцыямі Вярхоўнага Савета. Напрыклад, Аб'яднаная грамадзянская партыя будзе супрацоўнічаць з Уніяй вольнасці і Выборчай акцыяй „Салідарнасць". Таксама Г. Карпенка найважнейшым вынікам гэтага візіту лічыць факт, што польскі парламент падтрымлівае абраны народам у дэмакратычных выбарах ВС і хоча спрыяць развіццю дэмакратыі ў Беларусі.

Тым часам візіт апазіцыйных беларускіх парламентарыяў у Польшчы выклікаў „здзіўленне" Пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве. Так, менавіта „здзіўленне", бо такое слова можна знайсці ў дыпламатычнай ноце, накіраванай беларускім бокам у польскае Міністэрства замежных спраў. „Гэта не ёсць нота пратэсту, — падкрэслівае саветнік-пасланнік Пасольства РБ Уладзімір Каральчук. — Мы выказалі проста здзіўленне з тае прычыны, што польскія ўлады прымаюць дэлегацыю неіснуючага органа заканадаўчай улады. У пэўным сэнсе далі мы таксама зразумець, што гэта ўмяшанне ва ўнутраныя справы нашай краіны".

Паводле Каральчука, адзіным легітымным заканадаўчым органам у РБ з'яўляецца Нацыянальны Сход. Аднак з такім сцвярджэннем не згаджаюцца дэпутаты Вярхоўнага Савета XIII склікання. Ноту накіраваную беларускім пасольствам у польскае МЗС назвалі яны абсурдам. „Як можна пісаць, што Нацыянальны Сход — адзіны легітымны, калі ВС XIII склікання прызнаецца міжнароднымі арганізацыямі?" — ставілі рытарычнае пытанне беларускія дэпутаты. „Чаго ж аднак можна было чакаць з боку беларускіх чыноўнікаў? — гаворыць дарадчык старшыні ВС, старшыня Саюза палякаў Беларусі Тадэвуш Гавін. — Яны ж былі прымушаны неяк прарэагаваць, бо маюць жа гэты свой парламент, які назначаны, а не выбраны народам і які прадстаўляе 110 асоб і яшчэ адну, якая назначыла астатніх".

„Цяжкасці пасля таго як прэзідэнт спрабаваў разбурыць ВС давялі да страты сувязей з многімі парламентамі Еўропы, — гаварыў Генадзь Карпенка. — Удалося аднак ужо наладзіць сустрэчы з парламентарыямі Літвы, Латвіі і Эстоніі. Плануецца візіт у Нямеччыну, але найлепшыя сувязі маем з польскім Сеймам".

Пацвярджэннем гэтых слоў Карпенкі было б правядзенне — так як плануецца — у палове лістапада супольнай сустрэчы Польска-беларускай міжпарламенцкай групы. Тут аднак могуць узнікнуць пэўныя складанасці, бо, як здаецца, гэтая задума не карыстаецца поўным адабрэннем з боку ўсіх членаў Польска-беларускай міжпарламенцкай групы ў польскім парламенце, ды не вядома таксама, ці на правядзенне такой сустрэчы згадзіліся б беларускія ўлады.

**Яраслаў Іванюк**

## Не толькі дыпламатычны скандал

Ад некалькіх тыдняў сусветныя агенцтвы паведамляюць пра дыпламатычны скандал, які адбываецца ў сталіцы Беларусі. Прэзідэнт Лукашэнка загадаў паслам замежных краін пакінуць свае рэзідэнцыі ў Драздах, што каля Менска і шукаць прыстанішча ў іншым месцы. Ніхто і нідзе ў цывілізаваным свеце не дазваляе сабе на такое ігнараванне дыпламатычных прадстаўніцтваў. Пасольствы і рэзідэнцыі паслоў, паводле дыпламатычных пратаколаў, не могуць быць залежнымі ад улад краіны, у якой знаходзяцца. Яны — экстэрытарыяльныя. Абазначае гэта, што ўваход туды можа адбывацца толькі за дазволам прабываючых там дыпламатаў. Лукашэнка, парушаючы ўсе дыпламатычныя традыцыі, бесцырымонна пазбавіў пасёлак у Драздах газу, электраэнергіі, вады. Яго прапагандысты аргументуюць, што Драздына з'яўляюцца ўласнасцю прэзідэнта, дзе ён цяпер мае правесці генеральны рамонт. А з увагі на тое, што гэта яго ўласнасць, можа ён рабіць што хоча. Дарэчы, цэлая Беларусь — гэта яго ўласнасць і ён там сапраўды робіць што хоча.

Гэты дыпламатычны скандал наводзіць адно асноўнае пытанне: навошта гэтая авантура, якая карысць Беларусі ад знікнення са сталіцы замежных пасольстваў. Усе краіны сімвалам незалежнасці лічаць знаходжанне на сваёй тэрыторыі дыпламатычных прадстаўніцтваў іншых краін. У Беларусі былі яны таксама апошнім элементам былога суверэнітэту. Прыхільнікі імперыяльнай палітыкі ў Расіі, якія дамінуюць сярод тамашняй эліты, пры дапамозе Лукашэнкаў, Шэйманаў, Замяталіных, Ціцянковых, Посаховых, Антановічаў даўно пазбавілі Беларусь нацыянальнага сцяга, герба, мовы і надзеі на нейкую самастойнасць. У мінскіх сродках масавай інфармацыі ад двух гадоў вядзецца ўсведамленне грамадства, што візіт мэра Масквы ці Новасібірска ў Менск мае такі сам ранг як наведанне Беларусі прэзідэнтам вялікай краіны. Таксама паказваецца падарожжа Лукашэнкі ў расейскія вобласці. Гаворыцца пра іх доўга да, падчас і пасля паездкі. Грамадства звыкаецца з думкай, што пазіцыя кіруючага Рэспублікай Беларусь чалавека ёсць на ўзроўні прэзідэнта Татарстана, мэра Санкт-Пецярбурга ці губернатара Забайкальскага Краю.

Ад некалькіх месяцаў, калі наступіў чарговы правал у гаспадарцы Расіі, у Маскве больш рашуча пачалі гаварыць пра неабходнасць інтэграцыі. Першым прыхільнікам інтэграцыі стаў раптам адзін з найбагацейшых людзей у Расіі Барыс Беразоўскі. Новы прэм'ер-міністр Федэрацыі Сяргей Кірыенка падчас нядаўняй пабыўкі ў Менску гаварыў амаль адным голасам з першым інтэгратарам Садружнасці Аляксандрам Лукашэнкам. Адзіны фактар, які маскоўскім палітыкам перашкаджае ўспрымаць Беларусь як кожны іншы край Федэрацыі гэта факт, што выступае яна як суб'ект міжнароднага права. Тое, што адбываецца ў Менску з замежнымі дыпламатамі мае паказаць свету, што беларусы і іх палітычныя эліты не падрыхтаваны яшчэ да поўнай самастойнасці, не ў змозе мець нават нармальныя дыпламатычныя зносіны з іншымі краінамі, паводзяць сябе як гмінныя дзеячы. Калі б Беларусь парвала дыпламатычныя сувязі з еўрапейскімі краінамі і Амерыкай, ніякая згадацца хто будзе там прадстаўляць яе інтарэсы.

З другога боку Лукашэнка мае поўную свабоду ў галіне ўнутранай палітыкі. Служба аховы прэзідэнта, КДБ і міліцыя змогуць ліквідаваць апазіцыйную дзейнасць у той жа ступені паспяхова, што і славутыя савецкія чэкісты. Амаль уся ўлада і маёмасць на тэрыторыі рэспублікі апынуліся ў руках Лукашэнкі. Такой пазіцыі ніколі не мелі першыя сакратары Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. Імперыяльным амбіцыям расейскіх лідэраў пакуль што зусім не перашкаджае ўнутраная палітыка прэзідэнта Беларусі. У Федэрацыі ёсць шмат такіх „кіраўнікоў дзяржаў" як Лукашэнка.

**Яўген Мірановіч**

## Беларуска-расійскі спіртовы скандал

Чыноўнікі б'юцца над новай прэзідэнцкай задачай аб павелічэнні ролі дзяржавы ў вытворчасці і продажы алкагольных вырабаў. Гэта не першая спроба ўпарадкавання самай прыбытковай галіны нашай эканомікі. Ад папярэдніх мераў эканоміка ўжо моцна захмялела.

У 1995—1996 гадах з Расіі ў Беларусь была завезеная значная колькасць збожжа (каля трох беларускіх ураджаяў) для перапрацоўкі на спірт. Паводле ўмоваў здзелкі, большая частка зерня траплялая ва ўласнасць нашай краіны. Выраблены спірт павінен быў вярнуцца ў Расію. Чыноўнікі (як у нашых абласцях, так і ў Мінску) хутка сцямілі, што на чужым спірце можна „пагрэцца". Яны стварылі шэраг структураў — дзеля „ўпарадкавання і паскарэння перапрацоўкі" збожжа. У выніку з'явілася больш блытаніны, і падатковая інспекцыя пачала арыштоўваць расійскі спірт. З гэтага часу спыніліся пастаўкі ў Беларусь збожжа дадатковага „ўраджаю".

А збожжа не хапае. Нават на нядаўняй нарадзе ў прэм'ер-міністра ставілася мэта забяспечыць беларускія прадпрыемствы высакаякасным збожжам для вытворчасці спірту. Дэфіцыт збожжа адбіўся і на вытворчасці мяса птушкі (на птушкафабрыках не хапае кармоў). Пагоршылася якасць хлебапрадуктаў.

Чыноўнікі, дарваўшыся да алкаголю, пайшлі далей і стварылі спецыяльную камісію пры Савеце бяспекі, якая сабралася рэгуляваць вяртанне спірту ягоным гаспадарам у Расіі. Аднак падатковая інспекцыя па-ранейшаму не спяшаецца вызваляць з палону расійскі спірт.

Цяпер беларускія спіртзаводы затараныя спіртам. Тым часам расійскія пастаўшчыкі зерня практычна збанкрутавалі, бо ўкладзеныя ў зерне грошы за два гады абясцэніліся.

Беларуска-расійскі спіртовы канфлікт можа набыць градус міжнароднага скандалу. Падатковая інспекцыя Баранавіцкага раёна на працягу двух гадоў трымае пад арыштам каля 200 тонаў спірту, які належыць расійскаму міністэрству абароны. Вяртаць „гаручае" ў Расію ніхто не збіраецца. Па звестках нашых крыніцаў, расійскі бок рыхтуе іскавую заяву ў міжнародны арбітражны суд, каб спагнаць з Беларусі каля 500 мільёнаў новых расійскіх рублёў (гэта больш за 80 мільёнаў долараў). Менавіта на такую суму расійскае міністэрства абароны ацаніла нанесены ўрон. Без спірту тугавата паводзіцца ўсёй арміі, а асабліва авіяцыі, ракетным войскам і флоту. Рукамі падатковай інспекцыі беларускія ўлады арыштоўваюць чужы спірт па любой падставе.

Следчы камітэт міністэрства ўнутраных справаў Беларусі разглядае некалькі крымінальных справаў, звязаных з перапрацоўкай збожжа. Вінаватымі збіраюцца зрабіць грамадзянаў Беларусі, якія працавалі ў расійскіх фірмах, а сухімі выйдуць чыноўнікі падатковай інспекцыі. Высветліць лёс гэтых крымінальных справаў не ўдалося, бо следчыя МУС спасылаюцца на „таямніцу следства".

**Алесь Дашчынскі**

*(„Навіны", 5.06.1998 г.)*

# Будні чаромхаўскага ЗДЗ

**ЗДЗ — прадпрыемства прафесійнага ўдасканальвання ў Чаромсе было створана ў 1973 годзе і было філіялам беластоцкага ЗДЗ. Гэтая ўстанова ў чыгуначным пасёлку выходзіла насустрач патрэбам маладых кадраў спецыялістаў.**

Пачаткова пачала працаваць механічна-электрычная майстэрня, якую ўзначальваў Валянцін ДЭМЧУК. Новаарганізаванае прадпрыемства займалася таксама вытворчасцю і выконвала паслугі насельніцтву.

Тут можна было заказаць жалезную браму, выканаць агароджу і рамантаваць сельскагаспадарчыя прылады. Можна таксама было зрабіць практычна ўсё для гаспадаркі.

Маладая ўстанова спецыялізавалася ў вытворчасці каруселяў, качэляў і шуфляў для смецця.

Чаромхаўскі філіял ЗДЗ з'яўляўся адзіным вытворцам шуфляў у маштабе краіны і свае тавары пастаўляў адзінаццацю чыгуначным прадпрыемствам. Пры прадпрыемстве прафесійнага ўдасканальвання зараз жа арганізуецца навучанне краўцоўства і цырульніцтва, а ў 1984 г. пачала дзейнічаць прафесійная школа, якая навучала маладых прафесіі слёсара-токара і электрамеханіка.

Арганізаванне такой установы ў чыгуначным пасёлку выходзіла насустрач патрэбам чаромхаўскага паравознага дэпо. Дзяржаўная чыгунка ў той час змагла праглынуць кожную колькасць спецыялістаў.

За першыя дзесяць гадоў вучылішча закончыла 216 выпускнікоў.

Як у кожным новаарганізаваным прадпрыемстве, так і ў Чаромхаўскім філіяле ЗДЗ з'яўляюцца

**першыя праблемы і клопаты.**

Асноўным з іх быў недахоп памяшканняў. Разбудоўваецца майстэрня. З гатовых элементаў будуюцца новыя цэхі, павышаецца магчымасць павелічэння вытворчасці.

Да ўваходу рыначнай эканомікі, гэта значыць да 1990 года, некалькі разоў змяняліся кіраўнікі ў Чаромхаўскім філіяле ЗДЗ. Апошнім з іх стаў Павел ШАТЫЛОВІЧ, які па сённяшні дзень тут працуе. З ім я наладзіў нядаўна сустрэчу.

**Многае змянілася**

за апошні час, — гаворыць Павел Шатыловіч. — Паменшыўся рынак збыту, а гэтым самым і наша вытворчасць. Адчуваецца брак фінансавых сродкаў. Пустуюць службовыя памяшканні. Некаторыя з іх аддалі мы ў арэнду купцам і кляшчэлеўскаму банку. Ды і майстэрня застаецца нявыкарыстанай. Каб была магчымасць пашырыць рынак збыту, у кожную хвіліну зможам павялічыць сваю вытворчасць.

— А чым зараз займаецца ЗДЗ? — пытаю кіраўніка чаромхаўскага філіяла.

— Як даўней, так і зараз, па заказе чыгуначнага прадпрыемства выконваем шуфлі для смецця. Нашымі пакупнікамі з'яўляюцца перад усім вагонарамонтныя дэпо. Выконваем таксама сталы для майстэрняў і суднаверфій, столікі для слёсарска-зварачных цэхаў, формы для выпечкі хлеба. У нашай майстэрні праводзяць практыку вучні па спецыяльнасці слёсар-механік. У гэтым годзе такіх практыкантаў маем чатырох, трое мясцовых і адзін з Гайнаўкі.

— А як справа маецца з сярэдняй школай?

— Выходзячы насустрач патрэбам асяроддзя, 1 верасня мінулага года мы адкрылі агульнаадукацыйны ліцэй для дарослых, які з'яўляецца неграмадскай школай.

Спачатку запісалася 66 слухачоў (на сённяшні дзень засталося 54). Навука адбываецца завочна (у суботу і ў нядзелю). За навуку трэба плаціць 80 зл. у месяц, з чаго 63 зл. плаціць слухач, апошніе 17 зл. — гміна.

— А як з планамі на будучыню?

— Зараз праводзім курсы на вадзіцельскія правы пры садзеянні бельскага Асяродка прафесійнага навучання. Калі б было больш ахвотных, мы прыдбалі б аўтамабіль і тады арганізавалі курсы. Намерваемся таксама арганізаваць сярэднюю эканамічную школу. Аднак усё залежаць будзе ад патрэб асяроддзя і адукацыйнай рэформы.

— Дзякую за размову і жадаю поспехаў.

**Уладзімір Сідарук**

# Хто за іх заступіцца?

Пра недасканаласць апошняй распіскі цягнікоў (абавязвае ад 24 мая г.г.) загаварылі першымі самі чыгуначнікі.

— Жыву ў Рагачах (Мілейчыцкая гміна), — гаворыць Славік, рабочы чыгуначнай дарожнай секцыі ў Бельску-Падляшскім. — Штодзённа вымушаны даязджаць на працу цягніком. Да прыпынку ў Баравіках каля 2 км, у Чаромху ў чатыры разы далей. Каб дабрацца мне ў час на работу, я вымушаны кожны дзень 8 км ехаць веласіпедам у Чаромху, бо цягнік з Седльцаў не паспявае на цягнік з Чаромхі ў Беласток а $6^{36}$ (той прыходзіць у $7^{03}$). — Летам няма аж такое вялікай праблемы. Паўгадзіны веласіпеднай гонкі карысна ўплывае на здароўе. А як быць у зімовыя мяцеліцы? Ад работы нельга адрачыся, бо іншай у наваколлі не знойдзеш. А жыць трэба...

У той жа справе выказаўся і кіраўнік цягніка Яўген Т. з Чаромхі:

— На маю думку, можна было б усё ўладзіць. Хопіць раней пусціць цягнік з Седльцаў (замест у $5^{22}$, то ў $5^{12}$), у Чаромху прыбыў бы ў $6^{50}$, а ў Беласток паехаў бы цягнік у $6^{56}$. Такое вырашэнне ўсіх задавальняла б.

У гэтым выпадку пазнейшы прыезд цягніка ў Бельск-Падляшскі (было б гэта ў $7^{40}$) карысна паўплываў бы на выхаванне даязджаючай школьнай моладзі, паколькі тая свабодны час, ад прыезду цягніка да пачатку заняткаў у школе, выкарыстоўвае на валэнданне па вакзале ды курэнне папяросаў.

— Ды іншую праблему тут бачу, — гаворыць далей кіраўнік Яўген Т. — У беластоцкіх вышэйшых школах вучацца маладыя з-за Буга і Сямятычаў. Каб дабрацца ім у Беласток пасля вольных дзён ад працы на гадзіну дзесятую, трэба ехаць ужо нанач у нядзелю пасля абеду (у $16^{37}$ з Чаромхі, у Сямятычах на гадзіну раней). А чаму ж не раніцай у панядзелак?

Цяперашняя распіска руху цягнікоў адгароджвае жыхароў Сямятычаў і наваколля ад сталіцы рэгіёна — Беластока. Якую ж справу можна аформіць у дзяржаўнай установе перад заканчэннем працы? Практычна — ніякую!

Таму скрупулёзна разгледзеўшы вышэйсказанае, хочацца паставіць пытанне: хто заступіцца за грамадствам з тэрыторыі Сямятычаў і наваколля і паможа вырашыць праблему падарожжа чыгункай? На маю думку, калі чыгунка змагла вярнуць па-ранейшаму курсіраванне непасрэднага цягніка з Беластока ў Седльцы (пасля абеду, перад 14-й), дык змагла б і зрабіць дабрадзейнасць ранняга спалучэння ў Чаромсе. За гэта грамадства было б вельмі ўдзячным дзяржаўнай чыгунцы.

**(ус)**

# Дзеля экалогіі



*Нехта ж павінен паінфармаваць, што сюды можна вазіць смецце.*

— Мы вырашылі паставіць у нашай гміне на экалогію, — гаворыць Ян Іванюк, войт гміны Нарва. — Думаем прымаць удзел у конкурсе, які арганізаваць будзе Нацыянальны фонд асяроддзя.

Ад пачатку мая г.г. працуе каля Нарвы новая экалагічная звалка смецця.

— Пасля падрыхтоўкі дакументаў і праверкі грунту ў маі 1997 года прадпрыемства „Максбуд" распачало пабудову звалкі смецця. Месца мы так падабралі, каб поблізу не было сядзіб. Найбліжэйшыя мясцовасці гэта Нарва і Даратынка, ад якіх да звалкі больш чым 2 кіламетры, — расказвае войт. — На пабудову мы атрымалі 200 тысяч злотых пазыкі з Ваяводскага фонду аховы асяроддзя, з чаго аддаваць трэба будзе толькі палову. З Еўрапейскага фонду развіцця вёскі, што ў Варшаве, у якасці датацыяў атрымалі 80 тысяч злотых, а з Фонду польска-нямецкага супрацоўніцтва — 90 тысяч. Уся інвестыцыя каштавала 550 тысяч злотых.

— Калі паглядзець на месцы, абшар звалкі вялікі (гміна атрымала на яе больш чым 4 гектары зямлі). Вакол галоўнай часткі насып зямлі, а на ўсёй тэрыторыі пад пластом зямлі ляжыць бентамат, які не прапускае ўніз ні вады, ні іншых вадкасцей, усё плыве ў спецыяльныя ўмяшчальні. Тут прадугледжана класці ўсялякае смецце ці з прыватных дамоў, ці з прадпрыемстваў. З боку агароджаныя драцяной сеткай меншыя часткі, у якіх прадбачана класці аддзельна паперу, шкло, пластмасавыя вырабы і металалом.

— Добра, што пабудавалі такую звалку, бо пачалі ўжо смецце каля дарог высыпаць, — гаворыць Грыша Ваўранюк, які прымае смецце на звалцы. — Толькі покі што мала хто прывозіць.

— У нас тут каля дарогі Нарва — Тыневічы ў равы высыпалі смецце, дык патрэбна адно месца, куды можна было б яго вывозіць. Але ж і грошай на пабудову трэба было выдаткаваць, — кажа Мікола Снарскі з Даратынкі, якая найбліжэй звалкі. — Вакол звалкі дзяржаўнае поле, дык нікому яна і не перашкаджае.

— Мы бачылі, што нешта там агароджанае, але што можна туды вазіць смецце, ніхто нам не гаварыў. Гэта ж нехта з гміны павінен паінфармаваць, — уключаецца ў размову Мікола Ляшчынскі з Даратынкі.

— У нашай гміне апрацавалі спецыяльную праграму аховы асяроддзя, маючы ўжо на ўвазе конкурс, што будзе арганізаваны Нацыянальным фондам аховы асяроддзя, — кажа Ян Іванюк. — Мы таксама паінфармавалі ўжо жыхароў Нарвы і ўсіх вёсак, што бясплатна могуць вывозіць сваё смецце на звалку. Думаем таксама вазіць і сваім транспартам з паасобных вёсак. Па школах арганізуем спецыяльныя конкурсы. Прадбачваем зараз пабудову ачышчальні сцёкаў і каналізацыі. У Нарве цяпер толькі 6 умяшчальнікаў на смецце, так што думаем яшчэ некалькі купіць. Добра было б мець і свой транспарт, бо зараз пару разоў у тыдзень прыязджае машына з Гайнаўкі. Ну і трэба было б ужо канчаткова ліквідаваць нелегальныя вясковыя звалкі. Кожны ж можа вазіць смецце бясплатна на экалагічную звалку.

**Аляксей Мароз**

# „Чарамшыне" не падабаецца „Ніва"

Нядаўна я заглянуў у чаромхаўскі ГОК, каб пацікавіцца працай клуба, а асабліва вакальна-інструментальнай групай „Чарамшына". Калі выявіў мэту свайго візіту, кіраўнік калектыву Барбара Кузуб сказала такое:

— Не падабаецца мне „Ніва", а праўду сказаўшы тое, што пра нас там пішуць. Калісьці Ада Чачуга ў матэрыяле пра Фестываль „Беларуская песня" напісала, што „Чарамшына" — беларускі калектыў. А гэта не так! У нашым рэпертуары маюцца песні і беларускія, і ўкраінскія. І ў залежнасці ад мерапрыемства на якім выступаем, такія і спяваем песні. На Фестывалі, зразумела, выконваем выключна беларускія, бо таго патрабуюць умовы і правілы агляду.

Мы не атаясамліваемся з канкрэтнай нацыянальнасцю. Мы проста спяваем. Праўда, сёстры Самасюк прызнаюцца, што яны беларускі, дый за тое ніхто з нас не мае да іх прэтэнзіі...

Нядаўна я ў „Ніве" ўбачыла здымак, які падпісваўся, што гэта калектыў „Чарамшына". У сапраўднасці, на здымку былі таксама асобы, якія не маюць нічога супольнага з „Чарамшынай". Ды як можна так пісаць? Калі журналістам „Нівы" спатрэбіцца здымак усёй нашай групы, калі ласка, напішыце. Ахвотна прышлем!

На развітанне пані Бася сказала: „У ліпені выязджаем з канцэртамі ў Нямеччыну. Вернемся, дык заходзьце. Прадоўжым размову". І я паабяцаў: „Прыйду напэўна!"

**(ус)**

# Я спакойна пішу пра Крынкі



*Аўтарская сустрэча Сакрата Яновіча ў палацы Блюмэнштыль, 12 мая г.г. Сустрэчу вяла Эльжбета Ягала, дырэктар Інстытута польскай культуры ў Рыме. Побач, направа — Крыстыяна Молдзі Равэння, італьянская перакладчыца кніжкі „Мініяцюры".*

Фота Лявона ТАРАСЭВІЧА

***— Вы апошнім часам шмат падарожнічалі.***

— Я меў дзіўную вясну. Штораз трэба было некуды ехаць, то ў Вільню, то яшчэ ў лютым у Беларусь, то пасля на Шлёнск. Апошнім часам — у Італію. Гэта мела сувязь з маімі кніжкамі, якія выходзяць у тых старонках. Бо пакуль аўтар жывы, то выдаўцы хочуць яго выкарыстаць для прамоцыі выдання. Выпадае тут згадаць пра „Мініяцюры", якія выйшлі ў Венецыі на італьянскай і ангельскай мовах. Таксама выбраныя мае артыкулы, інтэрв'ю, эсэ, якія рыхтуе да друку фонд „Pogranicze". Цяпер жа, у іншым месцы, — доўгае інтэрв'ю, таксама кніжка, свайго роду споведзь з усяго жыцця. Выяўляецца, шэсцьдзесят два гады, якія маю паводле метрыкі, не так мала, ёсць куды агледзецца і што сказаць, азіраючыся на пройдзенае. Тое, што мне цікава, можа аказацца цікавым і чытачам.

***— Вы ўсё пішаце пра сужыццё палякаў і беларусаў, прычым найчасцей на прыкладзе родных Крынак. Як гэта ўспрымаюць чытачы ў Вільні, Венецыі, Рыме, ці хаця б на Шлёнску?***

— Крынкі здаюцца мне мініяцюрай свету. Тут здараюцца ўсе тыя самыя праблемы, толькі ў меншым памеры, што і ў свеце. У Крынках маем сутыкненне, мешаніну рэлігій, моваў, менталітэтаў. Тое самае я бачыў у Венецыі, якая зразумела непараўнальна большая за Крынкі, але можна сказаць, што гэта такое самае мястэчка Еўропы, дзе сустракаецца шматкультурнасць, шматмоўнасць. Кніжка, якая там выйшла, чытаецца італьянцамі добра, яна іх зацікаўляе, падабаецца ім, засмоктвае іх сваёй тэматыкай і настроем. Хоць гэта фактычна кніжка пра Крынкі. Я зразумеў, што свет, дзе б я не быў, ці ў Крынках, ці ў Рыме, Венецыі, Вільні, ці Мілане, ён усюды падобны. Усюды, больш-менш, такія самыя праблемы. Ёсць толькі іншыя прадметы, безліч будынкаў, больш гладкія тратуары, надта чыста, надзвычай ветлівыя людзі, не так набандычаныя, як у нас. Але гэта рэчы другарадныя, а сам сэнс, сама сутнасць жыцця ўсюды тая самая. Так, што я спакойна пішу пра Крынкі. Я ад Крынак нікуды не ўцяку, бо гэта мая айчына. Таксама, як і Крынкі ад мяне нікуды не падзенуцца, хоць можа і хацелі б... Справа ў тым, што — як ужо казаў — апісваючы Крынкі, я апісваю свет. Не трэба нават нікуды ехаць, даволі толькі паглыбіцца ў сваёй малой айчыне і ты будзеш разумець усё, што трэба разумець — ад Японіі аж па Англію і Амерыку. Чалавек усюды той самы, нягледзячы на расы, мовы, культуры, рэлігіі. Гэтыя яго спецыфічнасці не больш як узбагачэнне універсальнасці асобы.

***— А ці свет разумее Вас?***

— Здараюцца клопаты, але гэта рэзультат не столькі незразумення, колькі іншага разумення таго самага. Першае, што ў Італіі здзіўляла людзей культуры, дык гэта наша безупынная малітва да роднага слова. Гэтае нашае змаганне за роднае слова і яго абарона. Італьянцам гэта дзіўна, бо іхняй мове нішто не пагражае, яна ім існуе як паветра, так натуральна, што аж незаўважна...

***— Як машыны „Фіат" на вуліцах...***

— Дакладна так. На сустрэчы ў Рыме была публіка старэйшага пакалення.Ім найбольш падабаліся мае мініяцюры ў сентыментальным настроі. Ці скажам, матывы чалавечага шчасця і няшчасця, галоты, нейкай нэндзы. Гэта старэйшым італьянцам зразумелае, гэта іх хвалюе, бо нешта падобнае перажывалі і яны ў пасляваенны час.

Я ўсюды чытаў свае тэксты на беларускай мове, а перакладчыца чытала іх па-італьянску. Так мяне прасілі, бо ім было цікава пачуць мову, якой яны як жывуць, не чулі. Наогул, упершыню даведаліся пра існаванне такой мовы, культуры, нацыі, бо пра саму дзяржаву, то ўжо чулі. Перш за ўсё, з увагі на скандалы прэзідэнта Лукашэнкі. Так што ў гэтым сэнсе Лукашэнка адыгрывае векапомную ролю, бо нарэшце Еўропа пачынае цікавіцца Беларуссю. Людзі, на жаль, цікавяцца найперш тым, каго баяцца! Здаецца, за ўсю гісторыю Італіі я быў той першы, які чытаў там на беларускай мове. Зразумела, як літаратар. Бо там па-беларуску хаця б Ватыканскае радыё гаворыць многа. Магчыма, я памыляюся, але мая амбіцыя падказвае мне, што лепей было б, каб я не памыляўся...

***— Вы былі на прыватнай аўдыенцыі ў папы Яна Паўла ІІ. Ці папа ведае Вас як літаратара, ці знаёмы з Вашай творчасцю?***

— Мы пра творчасць не гаварылі, бо не такі сэнс тых аўдыенцыяў. У Ватыканскай бібліятэцы мая італьянская кніжка ёсць і нават паказвалі мне віншавальнае пісьмо з папскай канцылярыі, якое атрымаў мой венецыянскі выдавец. Былі і рэцэнзіі, вельмі прыхільныя. Ну, гэта заслуга выдаўца, які пастараўся пра элегантны ўзровень эдыцыі. А сам прыём у папы рымскага адбыўся дзякуючы ранейшым узгадненням. Маё падарожжа было сарганізаванае Міністрэствам замежных спраў Польшчы і яны звярнуліся да мяне з прапановай аўдыенцыі. Я, вядома, згадзіўся, бо гэта мне вялікі гонар як асобе. Але перш за ўсё я сябе там адчуваў як вельмі ўшанаваны прадстаўнік беларускай культуры, літаратуры. Гэтая кароткая размова з папам зрабіла на мяне вялікае ўражанне і запамятаецца. Але сустрэча мае значэнне не столькі мне, бо я ўжо жыццё за сабою маю і ніхто ўжо мне не ў стане зашкодзіць ані памагчы. Гэта павінна мець значэнне для нашае грамадскае сітуацыі тут на Беласточчыне, дзе спатыкаюцца ўедлівыя нацыяналізмы. Калі ласка, папа рымскі прыняў беларускага пісьменніка, праваслаўнага! Прыклад, як трэба ўзаемна жыць. Таксама і дыплом „За выдатныя дасягненні для польскай культуры ў свеце", які я атрымаў з рук міністра замежных спраў Браніслава Герэмка. Я сам спачатку здзівіўся, чаму беларускага пісьменніка ўзнагароджваюць за заслугі, і то яшчэ выдатныя, для культуры польскай. Але тут расходзіцца не столькі пра польскую культуру, але пра культуру Польшчы. А па-другое, я маю сваю пазіцыю ў Еўропе і там мяне ўспрымаюць як пісьменніка з Польшчы, польскага. Гэта так, як калісьці, не раўнуючы, Генрыка Сянкевіча ўспрымалі як пісьменніка расейскага. Гэты дыплом мілы асабіста, але мне важней тое, што менавіта пра яго будуць гаварыць у грамадстве. „Gazeta Współczesna" пракаментавала яго прыблізна так: Sokrat Janowicz chociaż jest Białorusinem, ale wcale nie zagraża polskiemu stanowi posiadania w Białymstoku. Вельмі добрая ірONія.

Гэтыя дзве справы, і дыплом, і сустрэча ў папы рымскага, ідуць у адным напрамку — каб ліквідаваць халерную сцяну насцярожанасці і недаверу між палякамі і беларусамі тут. Яе, вядома, цалкам не зліквідуеш, але, каб хоць не была яна такая цвёрдая, глухая, каб хоць былі ў ёй нейкія шчыліны. Так я разумею гэтыя ўзнагароды. Такую ролю адыгрываюць мае кніжкі. Аказваецца, быць беларусам, гэта не якаясьці бяда або і няшчасце. З гэтым не трэба ўтойвацца. Быць беларусам трэба нармальна, каб пра гэта не думаць штохвілінна. Так, як — прыкладам — певень ёсць пеўнем... Натуральна, звычайна, без утомнай дэманстрацыі.

**Гутарыў Мікола ВАЎРАНЮК**

# Бельскі белліцэй — найлепшы

[1 ☞ працяг]

цам гэтай жа алімпіяды, — разважае Тамаш Сахарчук. — Наш клас такі, што многа размаўляем аб палітыцы. Люблю я чытаць прэсу, глядзець тэлебачанне, але і ў бібліятэках трэба было моцна папрацаваць. Пасля ліцэя хацеў бы я штудзіраваць міжнародныя адносіны ў Варшаўскім універсітэце, а ў будучыні можа і палітыкай займаўся б.

— Пашанцавала мне ў дзвюх алімпіядах, — кажа Міхась Шымчук, сёлетні выпускнік, які закончыў ліцэй з найлепшымі ацэнкамі (5,3 сярэдняя за вучобу і 5,6 сярэдняя за матуральныя экзамены). — Я ўжо трэці раз фіналіст гэтай жа геаграфічнай і наўталагічнай алімпіяд. У мінулым годзе арганізатары наладзілі экскурсію ў Швецыю, куды я ездзіў. Далей думаю ісці на эканомію, дык буду звольнены з экзаменаў па геаграфіі і рускай мове.

— Напэўна на тое, што многа вучняў прымае ўдзел у алімпіядах і ёсць поспехі, уплыў мае традыцыя і праца яшчэ ад сямідзесятых гадоў, калі педагагічная рада паставіла на здольных вучняў. Велізарны вопыт настаўнікаў, здольнасць, зацікаўленасць і аграмадная праца вучняў ужо ад першага класа даюць наглядныя вынікі, — гаворыць дырэктар Зінаіда Навіцкая. — Многа здольных вучняў ідзе менавіта ў наш ліцэй ведаючы, што будзем іх салідна рыхтаваць да алімпіядаў і маюць шанц стаць іх пераможцамі. Удзел у алімпіядзе — гэта ж не толькі прывілей, але і сустрэчы з найздальнейшай моладдзю Польшчы, больш вопыт і ўпэўненасць патрэбныя ў дарослым жыцці.

**Аляксей МАРОЗ**

*Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА*

# Распачаліся канікулы

19 чэрвеня было апошнім днём навукі і пачаткам канікулаў для заслужанага адпачынку. Вучні сустрэліся ў сваіх школах, каб развітацца на два месяцы з настаўнікамі і з усмешкай на твары і пасведчаннем у руках разысціся дамоў. У Гайнаўскім белліцэі апошняе спатканне распачалося ў спартыўнай зале. Хаця вучняў было менш, бо раней адышлі чацвёртакласнікі, актавая зала не здолела б памясціць ліцэістаў 13 класаў.

Дырэктар Яўген Сачко падвёў рэзультаты працы вучняў і настаўнікаў, звяртаючы ўвагу на сярэднія ацэнак у паасобных класах. Хваліў ліцэістаў за добрыя паводзіны і поспех у вучобе, спорце і грамадскай працы. Высветлілася, што 24% ліцэістаў закончылі вучобу з сярэдняй ацэнак вышэй 4,0, а на 507 вучняў толькі двое не справіліся з матэрыялам.

Гаворачы пра поспехі па беларускай мове зачытаў ён прозвішчы лаўрэатаў і фіналістаў алімпіяды беларускай мовы. Успамінаючы пра школьны калектыў „Знічка", паінфармаваў, што выйшаў нядаўна іх кампакт-дыск і касета, якія ўжо можна купіць у школе. Словы падзякі былі выказаны ў бок школьнага самаўрада і яго старшыні Алі Найбук, Клуба польска-беларускіх спраў. Валейбалісты, якія перамаглі ў школьных спаборніцтвах Беластоцкага ваяводства і вучні, якія атрымалі найлепшыя ацэнкі ў паасобных класах былі тымі, якім дырэктар Яўген Сачко таксама адвёў асаблівую ўвагу.

Добрага адпачынку ў час канікулаў жадаў настаўнік рэлігіі айцец Георгій Ацкевіч. У час сустрэч у класах з выхавацелямі вучні атрымалі пасведчанні. Кветкі былі падзякай для настаўнікаў за дзесяцімесячную працу. Выходзячы са школы ліцэісты гаварылі пра планы адпачынку на бліжэйшыя тыдні.

**(ам-з)**

# Літаратурная старонка

Міра Лукша

## Русалчын дом

Газьбета Вараўка ў вяночку з бярозкі, драсёну, свірэпкі і дзятлінкі на галаве ў гэты раз без хусткі сунулася па пахі ў разнатраўі. Тут касіць ніхто не збіраўся цяпер — угіналася пад нагамі, калыхалася тарпа завешаная над тванню, смачна чвякала пад лазнікам, маладым алешнікам, што займалі ўсё больш і нахабна нядаўныя лугі. Над дурманячымі крамянымі кветкамі і парасонікамі, над сыплючымі залатым пылком вяхоткамі ў празрыстым паветры пагойдваліся бязважкія важкістракозы, віселі аксамітныя матылі, у высі цурчаў жаўрук. Газьбета падняла свой карычневы ў разорах змаршчын маленькі твар да неба, доўгія травы і сцяблінкі з павялымі ўжо лісточкамі гайдануліся, апалі на сутулую спіну ў выпалавелай ліловай сукенцы. Бледна-блакітныя, як і тое неба, вочы ўтапіліся ў дробную кропку-птушачку, якая званіла, залівалася проста над старою, абвяшчала сваю радасць і волю. Аж пераняў той моцны і далікатны свіст Газьбету да косці, скалануў, і зябкі холад пачула ў закарэлых ступаках, і рэдкія кроплі расы пакаціліся па спіне. Успомніла — поўдзень, а яна крыху паела ў Сцепанковай Золькі зусім зрання, калі тая выносіла бідоны з малаком на дарогу, недзе каля шостай — Максім Бараўскі, Андрэеў сын, унук Петрукоў з Сірочай Гары збіраў на прычэпу-балонавы конны воз якраз банкі з суседніх вёсак ды вёз у злеўню. Золька вынесла ёй у алюмініевай місачцы булён-зацірку з вялікімі вокамі тлушчу. Суп быў добры, густы, з пакручанымі абсмажанымі кавалачкамі вэнджанай каўбасы. Газьбета ела памалу, са смакам клала ў рот счарнелую лыжку, за кожным глыткам выцірала свой бяззубы рот крайком белае хустачкі з карункавымі беражкамі — адзінай рэччу, якая асталася ў Газьбеты з усяго багацця.

**Рэчаіснасць**

У таўпе таўкуся
Нямых беларусаў.
Яны і глухія,
Яны і чужыя,
Калі скажу слова
На іх даўняй мове,
Калі адазвуся
Наконт Беларусі.
Тут нашы „людкове"
Ужо пані, панове,
Яны ў Беластоку —
Палякі навокал.

**Віктар Швед**

От, якое багацце — дом, гаспадарка, пасажны куфар з бабскім дабром, пярыны, карова. Дзеці былі у Газьбеты, парачка, і муж някепскі, непітушчы. Добры быў чалавек „Чорны" Андрэй, разумны, гаспадарлівы, ласкавы для сямейнікаў, людскі для чужых. Але ці кожнаму дагодзіш — падклаў нейкі сучын сын, меркавалі людзі, што Разверыкаў Іван, агонь пад клуню, усё з нянавісці, і пагарэла ўсё — і жывіна, і машыны ўсе найлепшыя ў вёсцы, і будынкі ўсянюткія датла, і малыя падушыліся, схаваўшыся ад полымя ў шафу, не дала ім ратунку абгарэлая маці, — бегала толькі пад абвальваючыміся кроквамі, выла як звер, ледзь яе вырвалі з полымя, паўсляпую, з жывой ранай на ўсім целе... Андрэй сканаў па дарозе ў бальніцу. Як усіх хавалі ды перагортвалі папялішча, Газьбета ў псіхбальніцы ляжала, бо заматалі яе ў каптан, — зусім з сябе выходзіла, рвала бінты. Падлячылі яе, пусцілі ў людзі, не пытаючыся, куды ёй ісці. Вось так і ходзіць Газьбета па вёсках, есці просіць, а на зіму, калі хто не прыме яе дахаты, ідзе ў шпіталь або да гаспадароў, якія з бальніцы бяруць сабе памочнікаў, кормяць іх, апранаюць — вядома, такі хворы шмат у чым прыдатны, дапамагае. Абы толькі веснавое сонца выпарыць у снезе першыя праталіны, Газьбета завязвае свой клуначак, нацягае на сябе свае чыстыя, выбеленыя сонцам апранахі і збіраецца ў дарогу.

Няма ў Газьбеты свае хаты, але колькі ж іх сёння па вёсках, гэтых хатак, у якіх няма гаспадароў! Стаяць некаторыя, як сталі, ніхто ім ні дзвярэй, ні вокан не забівае. Толькі гаспадар ці гаспадынька не загляне на падворак, у агародчыках штовесну вылазяць былінкі, пахнуць для сябе толькі нарцызы, цвіце бэз, аддаюць шпакам свае плады чарэшні ды вішні. Калісьці як не сваякі, то суседзі, вынесшы з хаты ўсё што можна было ўзяць у прыпол ці ў спадніцу, браліся нават за печы. Цяпер самотныя хаты бліскаюць чорнымі вачніцамі на апусцелую дарогу, дзверы без замкоў нікога не запросяць, хоць, бывала, шчыра яны напаўрасчыненыя, усміхаюцца пакручанымі парогамі. Запрашалі ў сябе хаты хіба толькі Газьбету, чакалі яе доўга і цярпліва, кветкі ў чужых агародчыках прасіліся пяшчоты яе руплівай далоні.

* * *

чаму
такія патрэбныя
вы ўсе мне

перапоўненая дотыкам шчасця
не пазнаю яго
як паветра праходзіць
гаманіўшы аб нечым

дзесьці іграюць
на кветках каштанаў
закаханыя чмялі

**Марыля Базылюк**

У гэту вясну затрымалася Газьбета на Лукаўскай лагчыне, будзе ў кіламетры зо тры ад Зяўроўкі, над самюткім возерам. Вада заліла шэсць вёсак і чатыры прысёлкі — народ рассялілі то па суседніх вёсках, то па мястэчках, хто перасяліўся нават у Беласток — за забраную зямлю дзяржава дала гаспадарам грошы на новае жыццё. Рэдка хто, ужо пенсіянер, хацеў будавацца, ставіць дом, усё новае заводзіць, і шмат іх пайшло жыць у блёкі. У тыя бетонныя дамы-клуні загналі некалькі вёсак адразу. Паставілі, пісалі ў газетах, тут на турызм, але на гэтым не зараблялі яны, былыя гаспадары, а прыезджыя, што панастаўлялі будак з ежай і пітвом для галодных турыстаў. Паставілі дзядзькі ды цёткі перад блёкамі лавачкі, так як калісьці ставілі кожны пад сваім плотам, пасеялі ў жоўтым пясочку мацыёлу... Газьбета наведвала ўсіх знаёмых каля гэтых блёкавых кволых агародчыкаў разбітых на пяску, сцішаных старэчаў сярод плоймы сабак, катоў і дзяцей, якіх усіх, ад кацянят да дзіцянят, клікалі цяпер па-польску.

* * *

Гэтыя ўсе вершы
пра мову айчыну
што я іх пачула
ў адзін час
як узахлёб гучалі
адвучылі мяне
„патрыятычных" спеваў

**Міра Лукша**

Дзеткі, праўда, былі ветлівыя ў гэтай мясцовасці, размаўлялі з Газьбетай, хоць крыху боязна азіраліся на ейныя апранахі — безліч чыстых спадніц, кофтачак, якіх каўнерыкі акружалі доўгую худую шыю старое, расцягнутыя, пералатаныя лыжныя штаны. З Газьбетай было дзецям цікава і крыху страшна ды дзіўна. Ад Газьбеты пахла ветрам, сенам і чамусьці свежым хлебам патыхала яе карычневая, паморшчаная скура ў чырвоныя плямы, куды ўеўся быў калісьці агонь. З торбачак даставала „гасцінцы" — дзеці іх крыху баяліся браць, і частавала сабак і катоў. Яны цесным рухавым кругам клубіліся каля ног Газьбеты, ставалі на задніх лапах, заглядалі ў торбы, цалавалі твар і рукі, асцярожна бралі ў зубы пачастунак. Які сабака адыходзіў і выплёўваў скарынку, але так, каб старая не бачыла, што грэбуе сардэчным дарункам. Праводзілі Газьбету ў дарогу звяры і дзеці, вялі да асфальтавай шашы, пакуль старая босаю нагою не сходзіла на абочыну, парослую запыленым трыпутнікам і драсёнам. Тэпала далей адна памаленьку, па лясных і палявых дарожках і сцежках, па якіх заходзіла ў сабе вядомыя месцы і схованкі.

Казалі Андруха Зарэцкі і Барэцкі Юлішч, што бачылі Газьбету ў шостым квартале пушчы, як маладыя ваўчкі каля яе торбаў гулялі, частавала іх, лашчыла, і вось ваўчыха падышла, абнюхала лахманы старое, палізала ёй галаву. Андруха расказваў суседзям, як на абамлелых нагах забіўся ў гушчар, а за ім плёўся збялелы Юлішч, але ўсе смяяліся — ведалі байкі абодвух; на п'яную галаву ўсё здацца можа рэальным.

— Ну, я ж Газьбету бачыў, як цябе Коля, жывую, як ваўчанят песціць, а наўкол яе галавы было такое блакітнае святло, зусім як на іконах у святых...

— Гэта табе так ад сіненькай дзінатуры адбівалася, дый годзе! — скляповая пад бокі бралася, а Андруха аж пеніўся ад злосці, што яму не вераць.

*(працяг будзе)*

Барыс Руско

### Хлеб

**1**
Сямейныя хронікі
не векавечаць
крошку чэрства хлеба,
дыміць гісторыяй
свежы бохан —
спляценне
губчастай структуры
вады
і агню.
**2**
Былінка!
Звычайная былінка,
а па красе
няма другой на свеце —
у оргіі жыцця
хто пераможа
вусатае калоссе!
Дык на ягоным зерні
стаяць
егіпецкія піраміды.
**3**
Узіраюся ў зерне,
як у твар чалавека.
Колькі пакуты застыла
ў спіральных
скрутках мякіны,
быццам
у маланкавых жорнах
мацнела вялікае цела.
А на далоні
тузін зярнятак,
і яшчэ толькі месца
на гульню сонца.
**4**
На мяжы
між палеткамі
сялянская малітва,
а збожжа —
сонцам на зямлі,
а бохан хлеба
пахне полем,
і новая прастора
калышацца,
і даспявае памалу
калоссе...
**5**
У пяску тырчыць
шкілет сярпа,
і каса —
заржавела ад ляноты.
Камбайн,
быццам пачвара
мезазойская,
з асцінаю ў пашчы.
А ў засеках часу,
у маршчынах Гобі,
ляжыць
акамянелае
зернечка.
**6**
У хлебе многа поту,
мука белая,
як соль,
а над хлебнай
крошкай
стаяць на каленях
вякі.

Уладзімір Саўчук

### А нам у дарогу

Хвароба ўчапілася за дзверы,
а нам тут трэба ад'язджаць
па свой хлеб.
А ўжо дзеці выраслі,
перараслі наша чаканне.
Цешча выглядае ў акно,
выцірае слёзы дажджу.
Пакутуе душа,
прывыклая
вяртацца ў родны схоў.
Не забывайце, кажа маці,
а мы спяшаемся,
бо ж яшчэ кавалак дарогі
ў нашу будучыню...
І толькі нас бачылі.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Пастаноўка ў прадшколлі

## „Як лютасць стала літасцю"



Злыдні перакідаюцца ў Добрых людзей. З дзецьмі Анна Бабік.

**Дзея першая**

Чарадзей Высокая Лютасць дзеля пацехі прыдумвае брыдкія ўчынкі.

— Можа... набіць каго? Або плётку пусціць, каб усе пасварыліся? — разважае ўголас. Прыдворныя-злыдні, як і іх пан, думаюць пра адны шкоды: ці не напалохаць, напужаць каго-небудзь? Баба-Яга, касцяная нага расказвае пра добрых людзей са шчаслівага горада. Туды неадкладна падаецца на дыване-самалёце Высокая Лютасць са сваёй дружынай.

**Дзея другая**

У шчаслівым горадзе ўсе працуюць, спяваюць, дапамагаюць адзін аднаму. Смяюцца. Усмешка найбольш бянтэжыць Чараўніка. Наказвае ён злыдням адабраць або купіць усмешку.

— Усмешку можна толькі падарыць, — кажуць Добрыя людзі. — І толькі за добрую справу.

Чараўнік выпадкова дапамагае дзіцяці: заплаканай дзяўчынцы дарыць шарык. У падзяку атрымоўвае ўсмешку. І з тае пары ўсё мяняецца. Высокая Лютасць і яго злыдні перакідаюцца ў Добрых людзей.

**Пастаноўка**

спектакля „Як лютасць стала літасцю" адбылася 16 чэрвеня г.г. у беларускім прадшколлі. Дзень пазней дзеткі выступілі са сваёй п'есай у Пачатковай школе н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

Спектакль — вынік дзейнасці тэатральнага гуртка, што існуе ў садку. Кіруе ім Анна Бабік, таленавітая спявачка і настаўніца. Аўтарам „Як лютасць стала літасцю" з'яўляецца Галіна Васілеўская, сцэнарый пастаноўкі (адпаведна да ўзросту і ведаў дашкольнікаў) апрацавала Анна Бабік. Анна Бабік прыдумала музыку да песень напісаных беластоцкай паэтэсай (мамай дашкольніка Радзіка) Мірай Лукшай. Вельмі ж цікавым атрымалася сцэнічнае афармленне і танцы дзяцей (глядзіце здымкі).

**Акцёры**

Пра акцёраў можна было б пісаць многа. Дзеткі вельмі старанна запамяталі свае ролі. На дадатак смела паводзілі сябе на сцэне. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць бліскучыя ролі Алесі Максімюк (Чараўнік), Олі Каліны (Баба-Яга) і Натанькі Хомік (дзяўчынка з шарыкам). Таксама Злыдні і Добрыя людзі паказаліся як сапраўдныя акцёры.

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*



Добрыя людзі.



Злыдні і Баба-Яга.

## Вершы Віктара Шведа

### Медсястра

На перапынку ў школе
Пачаў хваліцца Коля:
— Ужо мая сястрыца
Два гады ў бальніцы.

— Вельмі нам прыкра, дружа,
Відаць, хварэе дужа.
Што сталася там з ёю?
— Яна там медсястрою.

### Удача

— Як удалося, матка, —
Запытвае сын Косцік, —
Адзвычаіць татку
Абгрызаць пазногці?

— Дык гэта вельмі проста, —
Матуля адказала. —
Я хіба ўжо раз шосты
Пратэз яго схавала.

## Вясёлы куточак

— Калі будзеш гарэзнічаць, — пугае бабулька ўнучку, — тады прыдзе воўк і цябе з'есць!

— Як у казцы пра Чырвоную Шапачку?

— Так!

— Але ў той казцы воўк найперш з'еў бабульку.

* * *

— Дзедка! — пытае ўнучак, — ці ты маеш яшчэ зубы?

— Не.

— Дык патрымай маю булачку.

**Даслаў Андрэй Гаўрылюк**

# Урэшце канікулы

19 чэрвеня г.г. закончыўся школьны навучальны год. Урэшце доўгачаканыя канікулы, час адпачынку, гульняў, паездак і новых сяброўстваў.

На здымку дзеці з ПШ н-р 4 у Беластоку. Другая злева Магда Карчэўская, далей Караль Заборскі, энтузіясты беларускай мовы.

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*



# Міфы старой Беларусі

**31. Пушчавік**

Пушчавікі маюць абмежаваную, цесную тэрыторыю — някрануты ці незвычайнай вышыні лес („пушча-дрымушча"). Пушчавік перавышае галавою самае высокае дрэва, што дапамагае бачыць наваколле на далёкую адлегласць. Ёсць, аднак, пушчавікі, якім такія дрэвы толькі да пляча!

Пушчавік робіць толькі адно зло, не забываючыся, што яму давялося сысці ў векавыя дубровы толькі з-за чалавека. Ён не шкадуе ні старых, ні дзяцей, ні жанчын, ні нямоглых, ні памочнікаў людзей — свойскіх жывёл. Калі ахвяра зайшла ў пушчу — яе гібель непазбежная. Калматы, зарослы доўгім мохам па ўсім целе, не выключаючы носа і вачэй, ростам гігант, пушчавік здольны забіць ахвяру адным сваім выглядам. Калі дасягнута мэта, ён не рагоча, як лясун, не здзекуецца з ахвяры, а спакойна ідзе далей, нібы зрабіў звычайную справу, выканаў сціплы абавязак.

На шчасце чалавека, пушчавікі даволі рэдкія і сустракаецца нямала пушчаў, дзе гаспадараць адны толькі Лесуны... Пушчавік непаваротлівы, кепска бачыць што ў яго пад нагамі. Усё гэта памагае чалавеку ўцячы ад пушчавіка. У выпадку сустрэчы з ім трэба рабіць крутыя павароты туды і сюды, ды паспешліва пакідаць тэрыторыю пушчы, далей якой пушчавік не адважыцца ступіць сваім старэчым крокам.

# Што чуваць у паэтаў

У днях 5—7 чэрвеня 1998 года ў Белавежы адбыліся XIII Сустрэчы „Зоркі".

6 чэрвеня ўдзельнікі мелі магчымасць сустрэцца з паэтам Барысом Руско — жыхаром Белавежы. Мы маглі даведацца многа пра жыццё паэта. Аказалася, што ён да семнаццатага года жыцця размаўляў толькі на беларускай мове. Гэта не памяшала яму закончыць Варшаўскі універсітэт з вельмі добрым вынікам. Хаця і закончыў навуку, наш субяседнік далей пашыраў веды. Ад дзяцінства захапляўся паэзіяй. Многа яго вершаў паўстала на экскурсіях на „месцы" ў Белавежскай пушчы. На сустрэчы Барыс Руско прачытаў многа вершаў, між іншым, „Kiedy więdną oczy", „Zapach puszczy" і „Drugi obiekt". Пісаў таксама творы для дзяцей, напрыклад „Цішок".

Вечарына закончылася бурлівымі воплескамі для паэта.

**Эвеліна ТЫМАШЭВІЧ**

# Польска-беларуская крыжаванка № 27

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ▶ | | | | Litr ▼ | 📖 |
| Świat Leśniczy | Żłobek ▼ | Swat ▼ | Rzeka Newa ▼ | ▼ | Kasza ▼ |
| ▶ | | | | | |
| Święto ▶ | | | | | |
| Gitara | | | | | |
| ▶ | | | | | |

**Адказ на крыжаванку 23:**

Туга, самавар, раса, стралец.

Такт, сум, гара, навал, ас, перац.

Узнагароды, **аўтаручкі**, выйгралі: **Дарота Барташэвіч** з Махнатага і **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага.

# Як пісаць прэсавую інфармацыю?

У час XIII Сустрэч „Зоркі", якія праходзілі на гэты раз у Белавежы, прыехала да нас спадарыня Лена Глагоўская з Гданьска. Сустрэлася яна з намі вечарам у суботу і падрабязна расказала, як мае выглядаць прэсавая інфармацыя. Як самае важнае зазначыла, што ў добра напісанай інфармацыі перад усім павінны знайсціся адказы на тры асноўныя пытанні — дзе?, — хто?, — калі?

Важна таксама, каб у такім артыкуле змясціць факты, якіх чытач чакае і якія яго зацікаўляць. Гэта абазначае, што трэба лічыцца з патрабаваннямі а нават з поглядамі чытача (патрапіць у густ).

Каб заахвоціць яго да прачытання нашага артыкула ці інфармацыі, трэба задбаць, каб загаловак быў цікавы а літары, якімі ён напісаны, адразу кідаліся ў вочы.

Каб наша інфармацыя з'явілася ў газеце, яна мусіць быць актуальная. Не можна дасылаць артыкулаў пра мерапрыемствы, якія адбыліся напр. два месяцы назад! Вельмі важнае пытанне: — Ці інфармацыя павінна быць доўгая ці кароткая? Дык вось адказ адзін: **інфармацыя мае быць не задоўгая, не закароткая, але поўная**. Не можа быць ніякага прамоўчвання.

Дадаткам да такой інфармацыі можа быць здымак, але і тут абавязваюць пэўныя прынцыпы. Найважнейшыя — пад здымкам павінна знайсціся інфармацыя, — каго і што ён паказвае.

Ведаючы пра гэта і яшчэ некалькі іншых спраў мы можам без клопату напісаць добрую інфармацыю. І такая была мэта гэтага спаткання. Дзякуем.

**Мажэна ГЕНІШЭЎСКАЯ і Уршуля ТАРАСЕВІЧ**

**Ад рэдакцыі**

Увага, дзеці! Прачытаўшы ўважліва артыкул Мажэны Генішэўскай і Уршулі Тарасевіч паспрабуйце напісаць прэсавую інфармацыю. Пішыце пра справы або пра здарэнні, якія вас цікавяць. У час канікулаў такіх тэм безліч. Аўтары самых цікавых допісаў атрымаюць запрашэнне на чарговыя Сустрэчы „Зоркі", прысвечаныя фельетону.

# Францішак Аляхновіч

Францішак Аляхновіч вядомы ў беларускай гісторыі як драматург, публіцыст, арганізатар тэатральнага і грамадскага жыцця. Нарадзіўся 9 сакавіка 1883 года ў Вільні. Яго бацька, Караль, быў прызнаным віленскім музыкантам. Род Аляхновічаў паходзіў з-пад Радашковіч. Францішак, аднак, вырастаў у атмасферы шматкультурнай Вільні. Тэатр, літаратура і музыка спадарожнічалі яму з дзяцінства. Марыў стаць акцёрам, аднак з прычыны непаслухмянасці не мог закончыць ніякай школы. Быў выключаны з Віленскай гімназіі, а пасля — Хімічнага тэхнікума. Прабаваў вучыцца ў Кракаўскім універсітэце, але і там неяк яму не атрымалася. У 1904 годзе паступіў у Варшаўскую тэатральную школу, а пасля яе заканчэння стаў працаваць акцёрам у вандроўным тэатры.

У 1908 годзе Аляхновіч вярнуўся ў Вільню, дзе ўключыўся ў беларускі нацыянальны рух. Пачаў выдаваць сатырычны часопіс „Перкунас" і разам з Аляксандрам Бурбісам арганізаваць тэатральнае беларускае жыццё. Яго сатырычная творчасць стварыла яму шмат непрыхільнікаў з боку царскіх чыноўнікаў. Па гэтай прычыне трапіў нават у турму, дзе напісаў п'есу „На Антокалі". Пасля вызвалення працаваў маляром, электраманцёрам, пажарнікам, настаўнікам, але перш за ўсё пісаў драмы, якія пасля сталі жалезным рэпертуарам беларускага тэатра — „На вёсцы", „Бутрым Няміра", „Манька", „Базылішак", „Калісь", „Птушка шчасця", „Шчаслівы муж", „Няскончаная драма", „Пан міністар". У 1918-1919 гадах, калі стваралася Беларуская Народная Рэспубліка, жыў паміж Вільняй і Менскам, арганізуючы ў гэтых цэнтрах беларускасці тэатральнае беларускае жыццё. Пасля падзелу Беларусі ў 1921 годзе прабаваў прадаўжаць тэатральную дзейнасць у Вільні, але ў Польшчы не было для гэтага адпаведных умоў. Вырашыў тады паехаць у Савецкую Беларусь і там рабіць беларускі тэатр. Але бальшавікі, якія акупавалі ўсходнюю Беларусь, запёрлі яго на 10 гадоў у салавецкія канцлагеры. У Вільню вярнуўся ў 1933 г. Сваю пабыўку на Салаўках апісаў у кніжцы „У кіпцюрах ГПУ".

Падчас нямецкай акупацыі напісаў гісторыю беларускага сцэнічнага руху, прабаваў ажыццявіць беларускі рух у Вільні. 3 сакавіка 1944 г. Францішак Аляхновіч быў застрэлены ў сваёй кватэры. Польскія даследчыкі даказваюць, што забілі яго савецкія партызаны, савецкія гісторыкі — што польскія. Як было ў сапраўднасці — невядома.

# Плач Нябёсаў




*Міністр Іаанна Внук-Назарова адкрывае Свята беларускай культуры.*

У нядзелю, 21 чэрвеня, у беластоцкім амфітэатры Галоўнае праўленне БГКТ ладзіла свята беларускай культуры, якое прымеркавана было на завяршальны акорд знаёмства з Беласточчынай Камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей Сейма Рэчы Паспалітай. Мерапрыемства ўдастоілі сваёй прысутнасцю міністр культуры і мастацтва РП Іаанна Внук-Назарова, члены Камісіі на чале з яе старшынёю Яцкам Куранем, саветнік пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Каральчук, консул РБ у Беластоку Мікалай Крэчка і прадстаўнікі менскіх міністэрстваў культуры і асветы. Ад беластоцкіх улад ваяводства і горада — нікога *ani be, ani me, ani kukuryku*; відаць слова „культура" ў назве мерапрыемства палічылі яны недастойным свайго перапоўненага „хрысціянскімі вартасцямі" дастаенства. З мясцовай знаці быў толькі дырэктар Беластоцкага тэлецэнтра Казімеж Пуцілоўскі ды некаторыя войты, м.інш. арлянскі Міхал Іванчук і нараўчанскі Мікалай Павільч. Ну і недзе каля тысячы асоб звычайнай публікі.

Гэтай публіцы належацца словы самага вялікага прызнання, а гэта па прычыне надвор'я. Бо, хаця імпрэза адбывалася акурат у той час, калі Сонца высілася над тропікам Рака — гэта значыць у першы дзень астранамічнага лета, — надвор'е было паганае: дождж і холад. І вось у такіх неспрыяльных умовах тыя не так ужо і мнагалікія гледачы маглі папросту паразыходзіцца. Але не! Я вось на працягу трох гадзін, бо столькі доўжылася мерапрыемства, не заўважыў, каб нехта са звычайных гледачоў пакінуў амфітэатр; з гасцямі было, вядома, крыху інакш. А гэтую незвычайную публіку складалі ў большасці людзі, якіх можна ветліва называць маладымі, а можна ўжо і не. Прыйшлі яны паслухаць роднага слова, якое ва ўмовах горада Беластока бывае яго жыхарам рэдкім рарытэтам. Тое роднае слова становіцца ў нашых умовах сіратою, і такімі ж сіротамі адчуваюць сябе і тыя, што галубяць яго ў сваіх душах. І, з'явіўшыся на свяце беларускай песні, яны быццам наведалі родную мову-маці і той найдаражэйшы кожнаму культурнаму чалавеку родны куточак, ад якіх адарваць іх не было ў сілах нават вельмі неспрыяльнае надвор'е. А, паліваючы дажджом, Нябёсы быццам аплаквалі іх незайздросны лёс.

Прывітаў гасцей і публіку старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі, аддаючы гонар адкрыцця свята міністр Іаанне Внук-Назаровай. У кароткім выступленні спадарыня міністр галантна адзначыла ўклад меншасцей у культуру нашай краіны.

Канцэрт павяла, як амаль заўсёды, Валянціна Ласкевіч. Першымі выступілі спевакі і інструменталісты „Чарамшыны", а ў іх складзе — старшыня Камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей Яцэк Курань! Усіх калектываў пералічваць не буду, ахарактарызую іх толькі словамі вядучай канцэрт: былі гэта „вельмі прыгожыя калектывы". Апрача выканаўцаў з Беласточчыны выступілі яшчэ дзеці са Смаргоні і калектыў „Неруш" з Менска. Апрача дзяцей са Смаргоні мерзлі, чакаючы сваю чаргу, і дзеці з Чаромхі, Ласінкі, Нараўкі і Гарадка.

Паралельна з эстраднымі выканаўцамі, сваё мастацтва прапанавалі таксама пісьменнікі Алена Анішэўская, Віктар Швед і Мікола Гайдук. Дырэктар Цэнтра славянскай кнігі і друку з Варшавы Янка Забродкі прапанаваў беларускія кнігі:

— Я не спадзяваўся, што столькі прадам! — сказаў ён мне, а я гэтаму асабліва не здзівіўся, бо такіх кніг, якія ён прывёз з Варшавы, у Беластоку са свечкаю шукаць.



*Побач міністр Іаанны Внук-Назаровай консул Мікалай Крэчка. А высока — хмары...*



*Апошняя шліфоўка перад выступленнем. Беластоцкія „Каласкі".*

Свае вырабы прапанавалі таксама і ўмельцы-рамеснікі. Жыхар Кашалёў прадаваў саламяны посуд. Спытаў я яго, як яму ідзе бізнес.

— На паліва зарабіў, — адказаў ён мне.

Рамеснікі з Беларусі прапанавалі гліняныя цацкі, кавальскія аздобныя вырабы ды саламяныя капелюшы. І іх я таксама распытаў пра зацікаўленне пакупнікоў іхнімі таварамі, а яны мне адказвалі, што вельмі задаволены тым зацікаўленнем. А вось адзін з іх пацікавіўся і мною:

— А не з органаў вы будзеце, што так распытваеце?

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Каб не згінула народнае багацце




*Калектыў з Нараўкі.*

„Беласточчына — музыка сямейных абрадаў". Пад такім лозунгам у Нараўцы ў днях 13 і 14 чэрвеня праходзіла дваццаць сёмая ваяводская прэзентацыя народных калектываў з цыкла: „У пошуках фальклору".

Галоўнымі арганізатарамі мерапрыемства былі Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы. Адбор калектываў праводзілі дамы і асяродкі культуры з усяго ваяводства.

Калектывы на сцэне амфітэатра над Нараўкай прэзентавалі хрысцінныя і вясельныя песні ды звязаныя з гэтымі абрадамі сцэнкі. Некалькі капэлаў зайгралі папулярныя калісьці на такіх урачыстасцях полькі, абэркі і вальсы.

— Багаццем песень і прымавак, галасістасцю, сцэнічным мастацтвам асабліва ўразілі беларускія калектывы, — сказаў прафесар **Ежы Сьрудкоўскі**, музыколаг. — Польскі фальклор на Беласточчыне вельмі слаба захаваны, некаторыя калектывы спрабуюць яго адрадзіць, але не заўсёды гэта атрымліваецца. А вось на ўсходзе ваяводства амаль няма такіх беларускіх вёсак, дзе б не было свайго песеннага калектыву. І спяваюць яны так натуральна, так аўтэнтычна.

Беларускі фальклор прэзентавалі ў Нараўцы спявачкі з Ляўкова, Дабрывады, Дашоў, Чаромхі-вёскі, Крыўца, Гарадка, Збуча, Курашава і мясцовы нараўчанскі калектыў (на здымку). **Сцяпан Копа**, які ў пошуках фальклорных жамчужын схадзіў і з'ездзіў пэўна ж усю Беласточчыну, пасля выступленняў сказаў:

— Усё яшчэ па нашых вёсках многа нераскрытых скарбаў. Трэба іх збіраць, запісваць. Старэйшых адыходзіць, а моладзь не цікавіцца сваёй спадчынай. Не можна дазволіць, каб прапала такое багацце. **(ак)**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# „Белавежа”. Сталы ўзрост



*Кнігі „белавежцаў” лічацца ўжо не дзесяткамі...*

[1 ☞ *працяг*]

вучылася ў школах беларускай мове каля 20 тысяч дзяцей, калі сёння менш 4 тысяч). Але не трэба песімістычна глядзець на жыццё і беларускія справы (як некаторыя дакладчыкі). Гэта наша эпоха. Як яе сфармуем, такая яна будзе. А мы жылі, жывём і жыць будзем.

Тэрэса Занеўская заўважыла ў дыскусіі, што заданнем „Белавежы” было падтрымоўваць дух, традыцыю і ўласную мову, і ці хто хоча ці не, „белавежцы” ўнеслі свой уклад і ў літаратуру польскую, асабліва разварушваючы і зараджаючы беластоцкі літаратурны рух сілай, памкненнямі і арганізацыйна.

Ацэньвае адпаведна „белавежскія” справы і Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы, дапамагаючы „Белавежы” ў выдаванні кніг і арганізацыйных справах. Успамагло яно і Міжнародную канферэнцыю „Літаратура беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы” (20-21.06.1998 г.). Далучыліся Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь і беластоцкі аддзел Саюза польскіх пісьменнікаў. Трынаццаць дакладаў пра дасягненні паасобных „белавежцаў” і агульныя ў шырэйшым кантэксце прадставілі масцітыя даследчыкі з Беларусі — Ала Сямёнава („Паэзія «Белавежы» як неад'емная частка беларускай культуры”), Міхась Тычына („Мэтанойя і рэстаўрацыя беларускай свядомасці: беларускі кантэкст”), Людміла Рублеўская („Беларускі міф як вобраз нацыі ў беластоцкай паэзіі 80-90-х гадоў”), Людміла Зарэмба („Узаемаўплыў творчых індывідуальнасцей: Ян Чыквін — Уладзімір Гайдук”), Галіна Тычка („Творчасць Сакрата Яновіча ў кантэксце беларускай традыцыі”), Вольга Шынкарэнка („Жанр гістарычнага эсэ ў творчай сістэме Мікалая Гайдука”), Анатоль Раманчук („Чалавек, прастора і час у зборніку Яна Чыквіна «Свет першы і апошні»”), а з гэтага боку мяжы выступілі Надзея Панасюк („Дзіцячая паэзія Віктара Шведа”), Тэрэса Занеўская („Матыў агню ў творчасці паэтаў БЛА «Белавежа»”), Зоя Ярашэвіч („Рэлігійныя матывы ў паэзіі «белавежцаў»”), а Владзімеж Стохэль і Валенты Пілат з Ольштына прадставілі аграмадную працу і яе вынікі альштынскіх беларусістаў. Ну, і, вядома, адтуль жа прафесар Васіль Белаказовіч, які не забыў і пра „белавежцаў”, якія ствараюць беларускую літаратуру на падляшскай гаворцы.

„Белавежы” — 40. Георгію Валкавыцкаму — 75. Міколу Гайдуку — 65. Міхасю Шаховічу — 45... Круглыя даты, часам ашаламляючыя біяграфічныя лікі. Яшчэ на трыццацігоддзе Алена Анішэўская ў сатырычнай паэме „Наш Парнас” наракала, што ў нас літаратурнае крытыкі няма ды хіба і не будзе. А сёння — калі ласка: і сваіх маем навукоўцаў, і іншым гонар і цікавасць разглядаць творы „белавежцаў”, і на якім узроўні яны гэта робяць! Вядома, ёсць пра што пісаць — ёсць кнігі вартыя і чытача, і крытыка, і кантэксту. А чакаецца ад „Белавежы” ўсё лепшага на наступныя *-годдзі* і новых імён.

На жаль, *харызматычны рэдактар* Георгій Валкавыцкі ўзяў ды не даехаў на такое свята! Напісаў, што *надарваўся*. Вядома, не пяром дзейнічаючы, а... касой, граблямі, віламі і іншымі прыладамі, якімі ён у свае 75 валодае з асалодай! Дай нам усім так махаць пяром і жыць з размахам, як *Бацька* Юрка Зубрыцкі з Белавежы!

**Міра Лукша**

*Фота аўтара*

# Адышоў ад нас а. Клаўдзій Пушкарскі

Айца Клаўдзія Пушкарскага нельга назваць інакш, як духоўным пастырам праваслаўных жыхароў Белавежы. Прысвяціў ім 40 гадоў сваёй працы і жыцця, а яшчэ раней 10 гадоў служыў жыхарам вёскі Белая, якая ў міжваенны перыяд належала да гміны Белавежа. Памёр айцец Клаўдзій 2 чэрвеня г.г. у Беластоку, на 93-м годзе жыцця. Пахаваны ён, згодна свайму жаданню, на могільніку ў Белавежы. Праводзілі яго на вечны адпачынак епіскап бельскі Грыгорый, чатырнаццаць праваслаўных святароў і шматлікая група жыхароў мястэчка. На царкоўным пляцы драўляны крыж у памяць святара размалявалі дзеці.

Клаўдзій Пушкарскі нарадзіўся 18 ліпеня 1905 г. у вёсцы Філіпова, што на Сувальшчыне. Ужо ў дзіцячыя гады вылучаўся вялікай верай, рэлігійнасцю. Хіба для нікога не было неспадзяванасцю, што пасля гімназіі Клаўдзій паступіў у праваслаўную семінарыю ў Вільні. Паказаўся ў ёй не толькі як выдатны вучань, але таксама як высакародны, вялікай маральнасці чалавек. Любілі і шанавалі яго як сябры, так і настаўнікі.

К. Пушкарскі, неадкладна пасля заканчэння семінарыі, 2 чэрвеня 1929 г. (як жа дзіўным чынам гэты дзень супадае з днём смерці пастыра!) быў рукапаложаны архіепіскапам Аляксеем у сан дыякана, а праз тыдзень прыняў святарства. 14 чэрвеня малады духоўны атрымаў прызначэнне служыць у прыходзе ў вёсцы Белая, што на ўсходняй ускраіне Белавежскай пушчы (зараз на беларускім баку). Святар кінуўся ў вір працы. Рамантаваў царкву, будаваў прыхадскі дом, навучаў дзяцей рэлігіі, адначасова вучыўся на курсах настаўнікаў Божага закону, заканчваючы яго ў 1933 г. у Пачаеве.

Карпатлівага святара дацаніў мітрапаліт Дзіянісій, які дэкрэтам ад 1 мая 1939 г. назначыў яго настаяцелем прыхода ў Белавежы. Пачаткі пастырскай працы на новым месцы аказаліся для а. Клаўдзія даволі складанымі. Ужо 1 верасня 1939 г. немцы скінулі на белавежскую царкву бомбы, якія моцна яе знішчылі. Савецкія, а потым нямецкія ўлады хацелі разабраць царкву. Айцец Клаўдзій пратаптаў не адну дарожку да іх, каб адступілі яны ад свайго загаду і дазволілі адбудаваць храм. Саветы прабавалі дубінкай выбіць яму гэтую задуму, аж да крыві. Больш зразумення для справы аказалі ўсё ж такі немцы. Выпрасіўшы ў іх дазвол, а. Клаўдзій арганізаваў рэстаўратарскі камітэт, які ўзначаліў Іван Смактуновіч. Пасвячэнне аднаўленага храма адбылося 17 кастрычніка 1943 г. Не прайшоў і год ад гэтай знамянальнай даты, калі над царквой павісла чарговая небяспека. Нямецкія жаўнеры ўцягнулі на царкоўную званіцу кулямёт з мэтай лепшага абстрэлу перад наступаючымі савецкімі атрадамі. Настаяцель пераадолеў страх і ўвайшоў за немцамі на званіцу, умольваючы іх, каб сышлі адтуль, таму што іх прысутнасць тутака абавязкова давядзе да паўторнага знішчэння толькі што адбудаванага храма. І немцы паслухаліся пастыра! Святар адкварэў гэтае здарэнне, але выратаваў храм.

Восенню 1946 г. К. Пушкарскі быў павышаны ў сан протаіерэя. У 1947 г. яго выбралі намеснікам дэкана Гайнаўскай акругі. Святар стаў таксама візітатарам праваслаўнай рэлігіі ў пачатковых і сярэдніх школах. За час сваёй службы атрымаў усе магчымыя царкоўныя ўзнагароды. У 1976 г. узнагароджаны быў мітрай.

У 1979 г., святкуючы 50-годдзе сваёй духоўнай службы, айцец мітрат папрасіў перавесці яго на пенсію па прычыне здароўя. Просьба была прынята. К. Пушкарскі пераехаў жыць у Беласток і, наколькі яшчэ дазваляла здароўе, прымаў удзел у рэлігійным жыцці горада. Саслужыў у святочных і нядзельных набажэнствах, удзельнічаў у дэканальных і епархіяльных канферэнцыях, навучаў дзяцей закону Божаму, сустракаўся з прыхаджанамі. Не парываў сувязі таксама са сваім былым прыходам. У Белавежу заглядаў амаль штогоду. Цікавіўся тутэйшым рэлігійным жыццём. У 1995 г. прымаў удзел у святкаванні сотай гадавіны белавежскай царквы.

Белавежцы добрым словам успамінаюць свайго шматгадовага пастыра. Сваёй вялікай рэлігійнасцю, прастатой жыцця і спагадай да людзей а. Клаўдзій стварыў узор святара.

**Пётр Байко**

# „Наша ніва” і ўсходняя Беласточчына

**Частка 19**

Досыць многа цікавага і інфармацыйнага матэрыялу аб беларускіх вёсках з усходняй Беласточчыны паявілася ў 20 нумары „Нашай нівы” за 1908 год. Датычыў ён такіх мясцовасцей як Пасынкі, Кленікі, Ступнікі, Козлікі, Трасцянка і Шчыты.

У першай карэспандэнцыі, падпісанай ініцыяламі Х. с-п. П., якія несумненна абазначалі Халімона з-пад Пушчы, значыць, Яўгена Хлябцэвіча, вельмі крытычна апісаны паводзіны мясцовых валасных суддзяў, якія кіруюцца ў сваёй практыцы не справядлівасцю, а хабарамі і гарэлкай. Аўтар такія дрэнныя схільнасці прыпісвае суддзям з Пасынак і Кленік.

„Пра нашых суддзяў, — піша ён, — мужыкі кажуць, што без гарэлкі няма чаго ісці ў суд. А як тут заведзена, што дзве стораны даюць хабара, то і суддзі цягнуць з двух бутэлек і правага і вінаватага. Кажуць, што як з аднаго не возьмеш гарэлкі, то ён злуе. Найболей хабараў бяруць, калі людзі судзяцца за зямлю. Справа такая цягнецца колькі лет, а суддзі ўсё п'юць і п'юць. У Кленіках кожную нядзелю выпіваюць можа з тысячу бутэлек піва, ды яшчэ цэлае возера гарэлкі. Такія суды шкодныя тым, што разводзяць па свеце няпраўду і п'янства. Дума прыбіраецца скасаваць валасныя суды і земскіх. Можа калі і дачакаемся гэтага, хоць пакуль сонцэ ўзыйдзе, раса вочы выядае”.

Далейшыя дзве карэспандэнцыі, падпісаныя псеўданімам Воўк, датычылі дзвюх невялічкіх вёсак — Ступнікаў і Козлікаў, якія знаходзяцца ў сённяшнім Кленіцкім прыходзе. У адной з гэтых карэспандэнцый гаварылася аб адкрыцці бібліятэкі імя Паўленкава ў Ступніках, а ў другой аб тым, што ў Козліках з кожным годам павялічваецца колькасць жыхароў і гаспадарак, якія ўзнікаюць з падзелу бацькаўскай зямлі паміж дарослымі сынамі. Пры гэтым, аднак, не павялічваецца колькасць зямлі. Аўтар звяртае ўвагу на тое, што ў такой сітуацыі з кожным годам пагоршваецца жыццё і паглыбляецца нядоля. Пастулюе ён: „Трэба ці болей зямлі дастаць, ці даць дапамогу, каб мужыкі патрапілі мець большыя даходы з зямлі”.

Зразумела, што такога тыпу „добрыя рады” не маглі мець і не мелі ніякага ўплыву на тагачасную рэчаіснасць. У кароценькай зацемцы, падпісанай літарай С., гаварылася аб тым, што ў вёсцы Трасцянка адкрылася бібліятэка імя Паўленкава. Варта адзначыць, што вёска тады называлася не Трасцянка але Трасцяніца і такой якраз назвай карыстаўся таксама карэспандэнт „Нашай нівы”.

Аўтар, які падпісваўся псеўданімам Міхалка-Запалка, закрануў у сваёй кароткай інфармацыі модную ў тым часе тэндэнцыю да перасялення беларусаў з заходняй Беласточчыны ў іншыя раёны Рускай імперыі. Міхалка-Запалка напісаў аб тым, што сяляне са Шчытоў паехалі аглядаць зямлю ў маёнтку Цісава-Штабінская. На жаль, з артыкульчыка не даведваемся, у якой частцы Расіі знаходзіўся гэты маёнтак. Цікава аднак тое, што дэлегатам са Шчытоў зямля адназначна не спадабалася і яны пастанавілі яе не купляць і не пакідаць родную вёску:

„Нашы мужыкі ездзілі аглядаць той маёнтак (Тісово-Штабінская), каторы ім надта хвалілі, але як убачылі горы і пяскі, дык адракліся купляць праз землеўстраіцельную камісію”.

У гэтым жа нумары „Нашай нівы” паявілася вельмі цікавая інфармацыя Халімона з-пад Пушчы, які прадставіў праявы вострай канкурэнцыі паміж тэкстыльнымі фабрыкамі Лодзі і Беластока. Аўтар падкрэсліў, што ў гэтай канкурэнцыйнай вайне наогул прайграваюць фабрыканты з Беластока ў сувязі з тым, што валодаюць намнога меншым капіталам чым фабрыканты з Лодзі.

**Алесь Барскі**

# Час бяжыць хутка



**Пётр Пятроўскі нарадзіўся 17 мая 1909 года. Ён дасканала памятае бежанства, перыяд санацыі, акупацыю...**

У 1915 годзе ў бежанства падаліся бацькі — Фёдар і Акуліна, сёстры — Наташа і Марыя, браты — Ваня і Федзя ды я — шасцігадовы хлапчук. Пасялілі нас у Раманаве Яраслаўскай губерні, на левым беразе Волгі. Жылі мы ў вялікім доме, у якім кватаравалася сорак сем'яў, па вуліцы Волжская набярэжная. З акна бачыў я параходы. На другім беразе ракі былі фабрыкі і людзі на работу перапраўляліся на пароме. Зімою, калі рака замярзала, рабочыя хадзілі пехатою па вызначанай елкамі дарозе. Волга была шырокая на кіламетр. Найгорш было напрадвесні, калі нельга ўжо было хадзіць пешшу і калі паром не мог яшчэ пераплываць раку з-за крыгаходу. Але былі смельчакі, якія на другі бераг пераскоквалі з крыгі на крыгу. Тады часта здараліся трагічныя выпадкі.

Я любіў хадзіць на раку і некалькі разоў амаль не ўтапіўся. Ля паромнай прыстані вылавіла мяне жанчына, якая непадалёк мыла бялізну. Іншым разам адна вялікая хваля змыла мяне з пясчанага берага, а другая — выкінула. У Расіі ў школу я не хадзіў. Бацькі расказвалі, што на самым пачатку жылося нам цяжка. Харчаваліся мы прывезенымі з сабою сухарамі. Стала лягчэй, калі пачалі выплачваць паёк — па 20 капеек кожнаму бежанцу. Сярод перасяленцаў здараліся і махляры. Напрыклад, адзін бежанец узяў паёк на ўвесь дом, а людзям сказаў, што яны атрымаюць грошы ў наступным месяцы. Такое паўтарылася і на другі месяц, а на трэці махляр сам уцёк, пакінуўшы жыльцоў без грошай.

Мясцовыя людзі да бежанцаў ставіліся прыхільна. Можна было пайсці на работу, хаця плацілі мала. За дзень работы ў лесе бацьку давалі адзін рубель. Была вайна і мужчын прызывалі ў армію. Узялі абодвух братоў і хацелі забраць бацьку, якому было толькі сорак гадоў, але маці неяк выпрасілася і яго пакінулі. Праз нейкі час наша сям'я атрымала ад бацюшкі новую кватэру, а бацька стаў працаваць сторажам.

Пасля выбуху рэвалюцыі пераехалі мы ў Варонежскую губерню, у вёску Атрошка. Адзін брат вярнуўся да нас з войска, а другі, які да бежанства закончыў гімназію ў Бельску, атрымаў пасаду справавода ў Варонежскім губернскім камісарыяце па ваенных справах. Быў ён начальнікам на ўвесь Варонеж і ўсе яго слухалі.

У 1918 годзе бацька вырашыў вяртацца на радзіму. Такіх як мы назбіралася больш. Брат, аднак, застаўся там, пасля закончыў медыцынскі інстытут і стаў лекарам. Пагрузіліся мы ў таварныя вагоны і прыехалі ў Бельск. На Падляшшы яшчэ былі немцы. У Орлю дайшлі мы пехатою, падышлі пад наш дом і даведаліся, што ў ім жыве яўрэй. Брат пачаў выганяць яўрэя, але прыйшлі немцы і дазволілі яму жыць у нас да гэтай пары, пакуль ён не паставіць сабе хату. А пабудаваў ён хату з нашай драўніны.

Зноў стала цяжка жыць. Людзі хадзілі на заробкі да мясцовых яўрэяў, выязджалі таксама ў Бельск і Гайнаўку. Калі мы разбагацелі на свае коні, стаў я наймацца на работу ў яўрэяў. Пара маіх коней прыводзіла ў рух машыну, якая абдзірала кару дрэў. За пуд кары (яе прымянялі ў гарбарстве) плацілі мне 50 грошаў і часамі за дзень удавалася зарабіць 20 злотых, а гэта была тады вялікая сума.

У 1931-1933 гадах служыў я ў II батарэі 9 артылерыйскага палка ў Брэсце. Сярод салдат многа было непісьменных і для іх зімою ладзіліся курсы па лікбезу, якія вяла настаўніца Анна Лабунькова. Гэтую адукацыю закончыў я 19 сакавіка 1933 года і да сёння захоўваю пасведчанне, быццам дыплом выключнай важнасці. А напісана ў ім наступнае: „Ukończył II stopień żołnierskiej szkoły początkowej, który obejmował zakres wymowy, czytania i pisania po polsku, naukę rachunków, wiadomości o Polsce współczesnej z wynikiem bardzo dobrym. Niniejszym stwierdza się, że kanonier Piotr Piotrowski posiada zakres wiedzy odpowiadający programowi IV". Многаму я там не навучыўся, але добра чытаў карту і за гэта, відаць, дастаў добрую адзнаку.

У 1939 годзе ажаніўся я з аднасяльчанкай Надзеяй Ярымовіч. Пры саветах прызвалі мяне на шэсць тыдняў на ваеннае абучэнне. Завезлі нас у Рудку, а пасля двух тыдняў перавялі ў Чырвоны Бор ля Замбрава. Там нас заспела нямецка-савецкая вайна. Гналі нас шашою, але як за Беластокам надляцелі нямецкія самалёты, усе разбегліся. Потым немцы палавілі нас і трымалі ў Беластоку. Было нас амаль дзве тысячы палонных салдат. Некаторыя яўрэі сталі працаваць у немцаў перакладчыкамі, іншыя папалі ў абслугу кухні. У лагеры сядзеў таксама арлянскі яўрэй Ёлка Ліманскі (у Орлі жыў ён у былдынку сённяшняй амбулаторыі), які інфармаваў мяне, што з намі будзе. Спачатку адпусцілі яўрэяў — немец на развітанне біў іх пры браме розгай. Нам загадалі напісаць свае адрасы. Пасля немец з кіем выйшаў на пляц і крычаў: „Белостокская, Барановичская области, кто имеет документы, по четыре становись!" У кожнага быў дакумент і ўсе кінуліся да немца. Зрабіўся балаган, людзі паводзілі сябе горш быдла. Сярод тых, якіх немцы адпусцілі, апынуўся і я.

Вярнуўся я дадому ў другой палове 1941 года. У Орлі па панадворках стаялі нямецкія машыны, а ў хатах кватараваліся салдаты. Маёй дачцэ Веры скончыўся тады годзік. Адзін з немцаў браў маю дачушку на калені і плакаў. Відаць, такое ж малое дзіця пакінуў ён на сваёй бацькаўшчыне.

Брат Ваня, які застаўся ў Варонежы, у трыццатых гадах быў рэпрэсіраваны і сядзеў у турме каля кітайскай граніцы. У вайну, як лекара, перавялі яго ў часць на заходнюю граніцу. Тады прыйшоў ён пехатою ў Орлю наведаць нас. Тут і заспела яго вайна. Немцы забралі яго ў Бельск працаваць у бальніцы. Больш вестак ад яго не было. Праўдападобна прапаў ён у турме на Усходзе. Ягоная жонка (ураджэнка Галадоў) з дачкою праўдападобна жывуць у Гродне.

Калі пачалася вайна, саветы намаўлялі мірнае насельніцтва эвакуіравацца ў Расію. Ахвотных аказалася толькі некалькі асоб, напрыклад, Міхал Мураўскі з сям'ёю. У правядзенні агітацыі савецкім салдатам дапамагаў мясцовы камуніст Міхал Стальмашук. Калі Сяргей Якімовіч рашуча заявіў саветам, што нідзе не паедзе, агітацыя правалілася і тыя, што першапачаткова запісаліся, таксама адмовіліся ад эвакуацыі.

Тры гады таму памерла мая жонка. Жыву з сынам Андрэем. Апякуецца мною яшчэ дачка Вера і сын Ян. Цяпер мне жывецца добра, ёсць свая пенсія. Толькі час хутка ўцякае. Мне ўжо перавалiла за дзевяноста...

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Ці была ў нас камуна?

Калі цяпер паслухаць тэлебачанне, можна пачуць, што камуна ўсё панішчыла, што камуністы хацелі загубіць нашу дзяржаву. Калі правыя палітыкі пераймалі ўладу, нічога ў дзяржаве не было. На маю думку, у нас не было камуны і ў доказ гэтаму прывяду некалькі прыкладаў. Члены партыі маглі браць шлюб у царкве ці касцёле, хрысціць сваіх дзяцей, хадзіць да споведзі і ім за гэта нічога не пагражала. Улады не закрывалі цэркваў, ні касцёлаў, сектанты будавалі свае бажніцы. Калі святары не ўмешваліся ў палітыку, тады ніхто іх не праследаваў. Дзеці вывучалі Закон Божы і ў школах, і ў адпаведных залах. Калі я пайшоў у школу пасля вызвалення нашай дзяржавы ад нямецкіх захопнікаў, таксама вывучаў Закон Божы ў школе. І мае дзеці ў пачатковай школе таксама наведвалі ўрокі рэлігіі.

Цяпер, калі я пачуў, што развалілі камуну, падумалася мне, што гэта хлусня, бо паўстала ў нас іншая, чорная камуна, толькі многія людзі не бачаць або не хочуць гэтага бачыць. У палітыку стаў умешвацца каталіцкі клір у чорных сутанах, які хоча завалодаць усімі сферамі грамадскага жыцця. Нашы ўлады маўчаць, бо баяцца ксяндзоў як чорт крыжа.

Калісь цяперашнія магістры, дактары, прафесары вучыліся задарма. Цяпер хочуць, каб плаціць за навуку, а дзе ж селянін, рабочы ці беспрацоўны возьме грошай, каб вывучыць сваё дзіця? Лех Валэнса сказаў у Беластоку, што яшчэ спадзяваўся цуду над Віслай, а я думаю што тады будзе цуд, калі палітыкі перастануць убіваць у галовы для людзей тое, чаго не было ў нашай дзяржаве. Тады будзе намнога лепей і людзі пачнуць верыць уладзе.

**Мікалай Лук'янюк**

**Апанас Цыхун**

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

***(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)***

**Частка V**

Брат майго бацькі Іван Гаўрылавіч Цыхун быў кавалём. Рабіў у кузні, бо зямлі на двух братоў не хапала. Затым змушаны быў эмігрыраваць у Амерыку, бо быў замешаны ў бойку з сялянскімі хлопцамі падчас вечарынкі-гуляння.

Матка мая, Юлія Фёдараўна, паходзіла з сям'і Краўцэвічаў, з вёскі Сухая Даліна. У яе быў брат Максім Краўцэвіч, па матцы самы блізкі і дарагі для мяне дзядзька. Іх бацькі рана памерлі. Гадаваліся сіротамі. Яны мелі невялікую гаспадарку, трацяк ворнай зямлі, чатыры дзесяціны. Але Максім ёю не вельмі цікавіўся. Яго прыцягвала да сябе школа, вучоба. Яму ўдалося атрымаць адпаведную адукацыю і стаць сельскім настаўнікам. Спачатку настаўнічаў у сваёй вёсцы Сухая Даліна, затым — у вёсцы Бабронікі. Як настаўніка яго паважалі. Сярод сялян і вучняў карыстаўся педагагічным аўтарытэтам. Цікава праводзіў заняткі з вучнямі. Даваў ім трывалыя веды для паступлення ў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Аб ім, як аб выдатным настаўніку, даведаўся вядомы ў тый час на ўсю акругу пан Пчыцкі, уладальнік маёнтка Лікоўка, земскі суддзя. Ён запрасіў Максіма Краўцэвіча да сябе ў маёнтак вучыць яго дзяцей. Такім чынам дзядзька Максім стаў у гэтага пана гувернёрам. Са сваімі абавязкамі добра спраўляўся, спадабаўся панам Пчыцкім і яны яму дапамаглі пераехаць у Пецярбург і там уладкавацца на работу на Галоўны артылерыйскі палігон. Дзядзька Максім стаў вайскоўцам, служачым. Даслужыўся звання маёра. Атрымоўваў добрую зарплату. Вось ён і паставіў, як кажуць, маіх бацькоў на ногі. За яго грошы бацька купіў чатыры дзесяціны добрай зямлі, пабудаваў хату, паставіў адрыну. Але неўзабаве ўзнікла вайна Расіі з Германіяй. Майго бацьку забралі ў царскую армію. У хуткім часе наша вёска Кунцаўшчына апынулася пад пагрозамі. Па загадзе царскіх улад усе жыхары павінны былі пакінуць сваю маёмасць і на фурманках ехаць у Расію, як бежанцы. Пакінулі сваю родную вёску і мы з маткай. Мне тады было пяць годзікаў, але я добра памятаю, як маці паказвала, як гарэла наша вёска Кунцаўшчына. Як толькі жыхары выехалі, іе падпалілі казакі, відаць было на небе вялікае зарыва. Помню, як матка аглядалася едучы і плакала. Памятаю, як ехалі на возе ў будзе, як цыганы. Як няўмела кіравала мышастай кабылкай маці, як насіла наш воз з будой са стромкіх узвышшаў, як я з братам Іванам, трымаліся адзін за аднаго і плакалі. На фурманках даехалі мы аж да мястэчка Шклова. Там усе сяляне, у тым ліку і мы з маткай, здалі коней і вазы дзяржаве, а самі на цягніку заехалі у горад Шую, а затым пераехалі да дзядзькі Максіма ў Пецярбург. У хуткім часе да нас вярнуўся з фронту і бацька. Але пачалася Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, удзельнікам якой стаў і мой бацька. Ён служыў у нейкім бранявым атрадзе. Пасля рэвалюцыі ў горадзе наступіў цяжкі час, разруха і голад. Нам, дзецям, давалі, як тады называлі, па васьмушцы хлеба напалову з мякінай. Дзядзька Максім застаўся ў Петраградзе, а мы, дзеці, вярнуліся з бацькамі ў 1918 годзе на радзіму, у вёску Кунцаўшчыну, якая апынулася пад нямецкай, а затым і польскай акупацыяй.

***(працяг будзе)***

# Як спраўляць імяніны

Я думаю, што на нашых старонках паяўляецца замала матэрыялаў пра звычайныя людскія справы, пра, як кажуць, само жыццё. Таму з прыемнасцю прачытала я тэкст „Імяніны і не толькі" Міхася Занчэўскага з Варшавы („Ніва" н-р 18, ад 3 мая 1998 г.), а была гэта адгалоска на мой фельетон „Імяніны". Усё ж такі ёсць людзі, якім баліць сэрца за падрастаючае пакаленне!

За скандальныя паводзіны некалькіх хлапчукоў, якія на імянінах у сяброўкі хадзілі па піяніна ў „адзідасах", скакалі з яго на ложак сяброўкі, які ўрэшце паламалі, спадар М. Занчэўскі раіць разлажыць віну „перш за ўсё на маці імянінніцы і на яе (г.зн. Гані), толькі ў невялікай ступені вінаватычы хуліганячых «гасцей»".

У нас заўсёды замест таго, каб гнаць хулігана ці нават бандыта, часта маем прэтэнзіі да паліцыянта, які „крыўдзіць" яго. У сувязі з гэтым успомнілася мне, як яшчэ ў „Пінскай шляхце" Вінцука Дуніна-Марцінкевіча (XIX стагоддзе) царскі ўраднік пакараў пабіўшыхся шляхцюкоў: тым, што біліся — штраф; тым, што не біліся, але бачылі і не баранілі — штраф; а тым, што не бачылі (за тое, што не бачылі) — таксама штраф!

Царскі ўраднік „дэмакратычна" падзяліў адказнасць паміж тымі, што біліся, і тымі, што не біліся, а нават і тымі, якія не бачылі гэтага здарэння. Можа, так яно і лепш, а прынамсі спакайней.

Ды толькі як адчуваюць сябе людзі незавініўшыя?..

На маю думку, уся віна мамы Гані ў тым, што зрабіла наогул гэтыя імяніны. Кім былі госці? Аднакласнікі яе дачушкі, з падставоўкі, яны прыйшлі ў госці са сваімі мамамі, якія спакойна сядзелі і частаваліся ў другім пакоі.

У гаспадыні ў сэрэдзіне ўсё перварочвалася, калі яна глядзела, як хлопцы трактуюць яе інструмент, на якім яшчэ яна сама калісьці вучылася іграць, а цяпер вучыцца дачка. Але як магла яна звярнуць увагу гасцям, калі іх мамы толькі ўсміхаліся, бачачы гэта...

Не, не было там хуліганаў, дзяцей з разбітых сем'яў, як кажуць, з рыштока. Усе яны былі з так званых добрых дамоў.

Ды толькі вось паняцце „добры дом" у нашы часы радыкальна змянілася. Нейкі драпежны, безгаловы капіталізм уварваўся ў наша жыццё і ўзбаламуціў старыя каноны. Цяпер дзеці ў падставоўцы не гавораць пра паходы, пра цікавую кніжку ці нават вартасны фільм, але дасканала арыентуюцца, чые бацькі ездзяць якім самаходам і паводле такіх крытэрыяў ацэньваюць вартасць гэтага дома.

Мець, мець, мець!.. А дзе ж пашана да чужой уласнасці?!. Нябось на імянінах у аднаго з тых хлопцаў, што з сяброўчынага піяніна зрабіў „казла", усе сядзелі ціхенька ў кухонным куточку (хаця ў віле было не тры пакоі, як у Гані, а семнаццаць і частаваліся — замест торту — піражным з уваткнутымі свечкамі, каб было танней. Сядзелі, елі і не рыпаліся. Можа, і мама Гані павінна была зрабіць такія „імяніны", „абмяжоўваючы іх пачастункам за сталом", як раіць спадар Занчэўскі.

Але ці ж утрымаеш пяцікласніка за сталом? Ды і навошта? Яны ж ужо ўмеюць самі сабе прыдумваць забавы і, калі б Ганя з мамай прыдумалі загадзя нават найцікавейшыя гульні, то яны абыйшлі б іх. Сёння такіх дзяцей ужо мала хто бавіць. Яны бавяцца самастойна. Дзякуй Богу, што яшчэ нічога не курылі і не нюхалі.

Бацькі Гані маглі б вынесці з яе пакоя піяніна і ложак, каб выратаваць іх ад знішчэння. Але і так засталіся б яшчэ паліцы з кніжкамі, лялькамі і здабытымі ў спартыўных змаганнях кубкамі, прыгожая шафа і камода з Ганінай вопраткай. І з гэтым усім разбушаваныя падлеткі маглі б зрабіць парадак.

Я проста не пераношу, калі бацькі запрашаюць гасцей на імяніны свайго дзіцяці. Мама Гані дазволіла ёй запрасіць, каго яна сама хоча, і дзяўчынка вырашыла, што найлепш ёй будзе бавіцца з аднакласнікамі. Ніхто не прадбачваў, што знойдуцца сярод іх варвары з... „добрых" дамоў.

Я чула, што Ганіна мама больш не спраўляе ёй гучных імянін. Прыходзяць дзед, бабка, дваюрадная сястра з мамай. Ганя не бунтуецца, яна задаволеная.

**Ада Чачуга**

# Конкурс „Нівы"

Рэдакцыя „Нівы" аб'явіла конкурс ведаў пра Беларусь. Пачынаючы з 23 нумара ад 7 чэрвеня, у дзесяці чарговых нумарах нашага штотыднёвіка змяшчаем пытанні па геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі. Побач друкуем тры адказы, сярод якіх правільны толькі адзін. Правільны адказ трэба пазначыць крыжыкам.

Чытачы, якія да 23 жніўня 1998 г. дашлюць у рэдакцыю дзесяць талонаў з правільнымі адказамі, возьмуць удзел у жараб'ёўцы ўзнагарод: першая — 500 зл., другая — 300 зл., дзве трэція — па 100 зл., дзве падпіскі „Нівы" на 1999 год, два энцыклапедычныя даведнікі па культуры Беларусі. Спісак узнагароджаных будзе апублікаваны ў „Ніве" ад 30 жніўня.

Талоны просім дасылаць усе разам у адным канверце з паметкай: *Конкурс „Нівы"*.

**ТАЛОН № 5**

## Конкурс тыднёвіка *Ніва*

Першы нумар газеты „Наша ніва" выйшаў у

❑ 1863 ❑ 1906 ❑ 1917 годзе

# ВЕР – НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Ізноў прысніўся мне дом. Але на гэты раз не быў гэта нейкі драўляны асабняк, а бетонны блёк, у якім я быццам бы жыла. Мая кватэра вельмі нізка: ні то партэр, ні то пограб. У кватэры даволі вялікія вокны, а ў іх устаўлены вялікія трохкутнікі з бетону. Ёсць і шкляныя шыбы, але праз гэтыя трохкутнікі ў хату можна вельмі лёгка ўвайсці. Я баюся. Пад вокнамі бачу агародчык, у якім растуць нейкія кустарнікі.

Неўзабаве прысніўся мне і другі сон. Сніцца, быццам я знаходжуся ні то ў хаце, ні то на зялёным лузе. Свеціць сонца. Побач са мною, на пледзе, ляжыць цудоўны хлопчык. Быццам гэта сынок маёй сяброўкі з працы, але яе сыну ўжо пайшоў чацвёрты год, а гэтаму ўсяго можа адзін годзік.

Хлопчык вельмі прыгожанькі. Такі тоўсценькі бландзінчык. Я збіраюся, бадай, купаць яго і ўвесь час з ім размаўляю. Гавару і гавару. А пасля кажу: „Зараз я прынясу табе халацік, бо так то ты змерзнеш!"

Прачынаюся, і мне вельмі прыемна. Адкажы на сны, Астроне!

**Яня**

Яня! Твой першы сон сведчыць пра нейкі непакой і страх, у якім ты жывеш. Нехта хоча ўмяшацца ў тваё жыццё, у твае справы. Будзе непрыемнасць, хвароба.

Што датычыцца другога сну, дык ён дазваляе на памяркоўны аптымізм. Дзіця ў сне прыносіць радасць, задавальненне і поспех у справах, а тым больш, калі яно здаровае і прыгожае. Іншая справа, каб яно было кволае, бруднае, ці, не дай Бог, калека. Тады справы твае выглядалі б зусім кепска.

**Астрон**

# Прапанова мастацкім калектывам

Цэнтр культуры „Арсус" ужо сёмы раз арганізуе Усяпольскі агляд артыстычных дасягненняў нацыянальных і этнічных меншасцей „Супольнасць у культуры". Сёлетні агляд адбудзецца 19-21 лістапада. Умовы ўдзельніцтва не мяняюцца. Арганізатары чакаюць заявак ад творцаў і калектываў да 10 верасня г.г. і пакідаюць за сабою права падборкі выканаўцаў. Удзельнікі агляду прыязджаюць у Варшаву за свой кошт. Арганізатары забяспечваюць удзельнікам адзін начлег і харчаванне. За дэталёвымі інфармацыямі можна звяртацца па адрасе: Ośrodek Kultury „Arsus", 02-495 Warszawa, ul. Traktorzystów 14, tel. (0-22) 667 34 54, fax (0-22) 662 76 26.

# Warsztaty dla tłumaczy

Forum Europy Środkowo-Wschodniej przy Fundacji im. Stefana Batorego organizuje w dniach 19-24 października 1998 roku w Jadwisinie k/Warszawy warsztaty dla młodych tłumaczy (do 30 lat) z języków: białoruskiego, czeskiego, rosyjskiego, słowackiego oraz ukraińskiego.

Osoby zainteresowane udziałem w warsztatach proszone są o nadesłanie próbek swoich przekładów z literatury pięknej oraz eseistyki (5 stron prozy, lub 3 utwory poetyckie wraz z tekstem oryginału) a także podstawowych danych o sobie (wiek, zawód, dorobek).

Wyboru uczestników dokona komisja w składzie: Leszek Engelking, Ola Hnatiuk, Tadeusz Komendant, Jan Maksymiuk, Adam Pomorski.

Termin nadesłania: **do 15 sierpnia 1998 roku** na adres: Forum Europy Środkowo-Wschodniej przy Fundacji im. Stefana Batorego, ul. Flory 9, 00-586 Warszawa (z dopiskiem „Warsztaty dla tłumaczy")

Szczegółowe informacje na temat warsztatów można uzyskać u Piotra Kosiewskiego w biurze Fundacji, tel. (0-22) 48-80-55; e-mail: pkosiewski@batory.org.pl.

# Студэнцкі рэйд

Беларускае аб'яднанне студэнтаў запрашае моладзь на рэйд „Бацькаўшчына" і Купалле. Рэйд адбудзецца ў тэрміне ад 30 чэрвеня да 3 ліпеня 1998 года па наступным маршруце:.

30.06 — прыпынак ПКС у Дубінах (сустрэча і начлег),
1.07 — Дубіны — Тапіла — Доўгі Брод (начлег),
2.07 — Доўгі Брод — Дубічы-Царкоўныя (начлег),
3.07 — Дубічы-Царкоўныя — Орля (Купалле і начлег).

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***

E-mail: niwa@kurier-poranny.com

Internet: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка



*Дамаляваліся.* Мал. Алега КАРПОВІЧА

## Прыказкі і прымаўкі

Не ўсё тое золата, што сліна на язык прынясе.
Сем разоў адмерай — адзін чорт.
Там добра, дзе ракі зімуюць.
У сямі нянек чорт дзяцей калыша.
Хвалі каня пасля дарогі, а пана — як з ланцуга сарваўся.
Хто пытае, той не есць.
Не той друг, хто рана ўстае.
Вока за вока, а чорт за нагу.
Дзе кухарак шэсць, там і мухі.
Не такі чорт страшны, як пятае кола ў возе.
Не мела баба клопату, дык і завяліся мухі ў носе.
Адклад не ідзе на босую нагу.

**(Ш)**

## Апазнанне

Бяруся я за тры хвіліны,
на двух глытнуўшы піва збан,
дакладна вызначыць, васпан, —
адкуль, з якое вы краіны.

Вы Польшчу хваліце? Палякам
вы будзеце, пакуль жывы.
Вы звыклі лаяцца са смакам
„по матушке"?
Дык рускі вы.

Калі ж вы ў горад свой найлюдскі
сяброў не пусціце без віз,
а гімн наспеўваеце жмудскі —
то вы, магчыма, летувіс...

Каб толькі не маўчалі госці,
і ты, чытач, матай на вус:
як Беларусь
з іх збэсціць хтосьці —
няйначай, гэта беларус.

**Міхась Скобла** *(„Вожык")*

## Хацелася, як лепш...

Неяк мой сябра Іван захваляваўся.

— Разумееш, — сказаў ён пры сустрэчы, — здароўе пахіснулася. Бывала, і бутэльку, і дзве вып'еш ды яшчэ півам разбавіш — і хоць бы што. А цяпер усё не так, забывацца стаў: ведаю, што піў, а вось дзе, з кім і колькі — не згадаю. За што лаяўся з жонкай увечары — таксама ні-ні. А ты ж ведаеш, яна ў мяне доктар. Ды вось, памятаеш, летась паклала мяне ў сваё аддзяленне сардэчна-сасудзістай недастатковасці. Прайшоў курс, а мне не лепей, а горш, ледзь дуба не ўрэзаў. Давялося мяняць доктара...

— А жонку не пакінуў? — перапытаў я ў Івана.

— Пакінуў пакуль што пры сабе. Адно баюся, каб яна мяне не пакінула, нешта часта стала гаварыць пра гэта. Вось бы знайсці зелле мне — ад бяспамяцці, а ёй для забыцця...

— Цяпер чаго толькі няма, — паківаў я галавою. — надоечы чытаю: „...еўрапейскія вучоныя вынайшлі прэпарат, ад якога і нападпітку можна садзіцца за руль і ніякі інспектар не разбярэцца, што ты нецвярозы, а ў крытычных сітуацыях павышае рэакцыю і папярэджвае сітуацыю".

— Папярэджвае, кажаш, сітуацыю? Гэта добра. Але ж і мая Галя ледзь не кожную раніцу папярэджвае: „Глядзі ж, каб прыйшоў нармальны". І я ўвесь дзень трымаю гэта ў галаве. А як бліжэй да вечара — зноў апаноўвае забыццё. Як кажуць, чарка ў роце — і яно ў рабоце.

— Ох, не купаны ты, Іване, у гарачай вадзе! — кажу яму, паклаўшы руку на плячо. — Гэтага „зелля", здаецца, табе не хапае.

— Вось бачыш, я да цябе са шчырай душой, а ты ўсё на гумар пераводзіш. Я сапраўды занядужаў, балячак назалазіла ў цела, і ў душу. Ты мне павінен дапамагчы, — катэгарычна заявіў Іван і дрыготкімі пальцамі дастаў цыгарэту.

Мне стала шкада сябра, і я прапанаваў:

— Слухай, Іван, для нармалізацыі функцый твайго арганізма я магу параіць чай „Наркадзел". Канечне, гарантаваць, што ты ўжо назаўтра пазбавішся ад усіх балячак, не магу, але галоўную нядужасць як рукою зніме...

Як толькі мы зварылі „Наркадзел", з'явілася мая Тамара і, глянуўшы на стол, пачала адчытваць мяне за тое, што я так сціпла прымаю свайго дўняга сябра. Умомант на стале „прызямліліся" „Два буслы", агуркі, каўбасы. Зазвінелі чаркі, пасыпаліся тосты, застолле пайшло з маладым размахам. І я падумаў: хацелася — як лепш, а выйшла — як заўсёды...

**Арсен Сакун** *(„Вожык")*

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. круты абрыў, 4. месца, на якім у старажытнасці было размешчана пасяленне, 6. у шыі або ў пасудзіне, 7. падатак, 9. вершаваная двускладовая стапа з націскам на другім складзе, 11. начальнік канцылярыі вялікага князя ў ВКЛ, 12. спадчынны ўладар, 13. асноўны цотны лік, 15. дрыжыкі пры ліхаманцы, 17. старадаўняя калючая зброя, 18. члены каталіцкага манаскага ордэна, заснаванага ў часе крыжовых паходаў у 12 ст. на гары Кармель у Палесціне (мн. лік), 19. цякучая вадкасць у роце.

**Вертыкальна:** 1. філасофскае вучэнне, якое зыходзіць з прызнання двух пачаткаў: духа і матэрыі, 2. грамадскі слой у Індыі, 3. старая мера даўжыні, роўная 0,71 м., 4. прадмет з дарагога металу ў форме абадка, які носіцца на пальцы, 5. звычай агляду хаты і гаспадаркі жаніха бацькамі нявесты, 6. наводзіць страх, 8. сыравіна для ганчарных вырабаў, 9. англійская мера даўжыні, роўная 91,44 см., 10. у граматыцы адзіночны і множны, 11. адна з арганізацый БС у РП, 14. мазь, якая ўжываецца ў медыцыне, касметыцы, тэхніцы, 16. расейскае прэзідэнцкае імя, 17. адтуліна. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 21 нумара**

**Гарызантальна:** чарада, „Анабаза", рабіна, Філдынг, Анкара, распад, зарніца, Лейбль, Ёсікава, чартэр.

**Вертыкальна:** фарфор, Наблус, царыца, чарга, рыбак, донар, Нарвік, асілак, ахапак, апека, Пабст, Дзьёр.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Ці ты прыкмеціла, што жанчыны, якія гуляюць у баскетбол, маюць доўгія ногі, а тыя, якія плаваюць, маюць доўгія рукі?

— Не, але калі гляджу на цябе, у мяне складваецца ўражанне, што займаешся конным спортам.

* * *

— Ці лякарства, якое я табе дала тыдзень таму, прыдалося?

— Яно надзвычайнае! Печань мне ўжо не баліць, сын перастаў кашляць, мужу адступіў раматус. Але найбольш я ўцешылася з таго, што выдатна ім вычысціла свае срэбныя лыжачкі.

* * *

Дзве суседкі пра трэцюю:

— Што яна можа ведаць пра сужонства, калі апрача свайго мужыка не мела яна ў жыцці ніякага другога!

* * *

Гутараць два сябры:

— Не маю я шчасця; у маім 40-гадовым жыцці закахаўся я толькі адзін раз ды і тая любоў завяршылася няшчасцем.

— Дзяўчына вайшла за другога?

— Не: стала маёю жонкай.

* * *

— Мужчына не мае шансу знайсці ідэальную жанчыну...

— Але калі ён мудры, дык стараецца праверыць як мага іх болей, ці не якая з іх...

— Навошта?

— Бо з гэтых пошукаў мае многа асалоды.

* * *

Тэлефон у начны клуб:

— Ці няма ў вас майго мужа? Называецца...

— Няма! — адказвае бармен, — У нас такога чалавека ніколі не бывала.

— А адкуль у вас такая ўпэўненасць? Я ж не паспела нават назваць вам яго нага прозвішча...

— Бо ў нашу ўстанову прыходзяць выключна такія джэнтльмены, якіх жонкі не паніжаюцца да пошукаў іх па рэстаранах.

* * *

Пасля поўначы да дзвярэй кватэры Кавальскіх нехта дабіваецца. Гаспадыня адкрывае дзверы і бачыць перад парогам хістаючагася п'янага мужчыну.

— Шаноўная пані, — балбоча п'яніца, — я прыйшоў апраўдаць вашага мужа, які вернецца крыху пазней.

— А дзе ён цяпер?

— Пайшоў да маёй жонкі апраўдваць мяне.